ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

**№46** (2500)

14 лістапада 1996 г.

Выдаецца з 1955 г. Цана 1 000 рублёў.

*ЧАРОЎНАЯ МАРЫЯ ЗАХАРЭВІЧ*

## І СЛОВА НЕ МОЎКНЕ, НЕ ЦІХНЕ, НЕ ГАСНЕ...



Мажліва, гэта самая ціхая, не, дакладней кажучы, — ціхамірная з усіх актрыс, якіх я ведаю. Даруйце, пачаў з "я". Прыгадваю не свае, чужыя ўражанні.

Першае — у радыёстудыі. Запісваецца літаратурная перадача, гукарэжысёр рэгулюе зычнасць галасоў, што гучаць там, за шклом павільёна, я ўладкаваўся ў куточку, чакаю сваёй чаргі "на запіс". Ушываюся ў тэкст, які буду вымаўляць перад мікрафонам, і... Не заўважаю, што слыхам — там, за шклом, дзе гучыць-пераліваецца, бы ачалавечанае рэха ляснога пошуму: "Калі бывае мне маркотна..." Галосныя "а-а-а" нібы натыкаюцца на гэтае "эр", ды яно спружыніста мякка падтрымлівае настрой радка: "...маркотна, — А я марнуюся часцей, Чым гэта думае ахвотна Мой дабрадзей ці ліхадзей..." О, Купала з яго душэўным святлом і мілагучным характарам! Радкі перабірае ў калапартурных пасажах сумнавата-ўстрывожаны голас. Жаночы. Перабірае, быццам то не радкі, а пацеркі, жамчужныя каралі, ажываюць гукам: "Тады іду я ў лес нядбала, Каб не мазоліць воч людзям, На мох валюся дзе папала, І ўжо я з пушчай сам-насам..." Жаночы голас крыху скаланула ад гэтага журботнага і нежаданага абавязку быць насцярожана пільным на людзях. Прытоены стогн пачуўся ў "каб не мазоліць..."

Ну а потым я ўжо і сам захваляваўся, пачуўшы: "Зязюлька ў такт "куку" кукуе, Як ёй хто голас натачыў", — і пасля паўзы шчымлівае: "Лічу... ці доўга навякую... Замоўкла... мала палічыў..." Колькі непазбыўнай тугі трымцела ў тым "мала" (ой, ма-ла!), што сам і лічыў!

Гукарэжысёр, інтэлігентная дама, відавочна да сантыментаў не схільная, бліснула вачамі і абвясціла: пасля таго ўзрушэння, якое абуджае ў яе Маша Захарэвіч, адразу "запісваць на стужку Бур'яна" ёй будзе невераrодна складана.

— Пасля Купалавых вершаў? — прастадушным неафітам перапытаў я і зноў пачуў з дзівоснай прафесійнай пашанай да яго вымаўленае імя: "Ма-шы Захарэвіч... За сэрца бярэ. І спавядаецца голасам, і малюнак рысуе..."

Але, у гэтай актрысы, я сказаў бы, чароўнае вымаўленне, яе голас нібы асаблівa пачцыва ставіцца да кожнага гуку, губы і язык тактоўна артыкулююць, хоць мы і не заўважаем "работу" гэтых органаў мовы. Па-сучаснаму не надта кідка дэкламуючы вершы або чытаючы прозу, актрыса

(Заканчэнне на 6-й стар.).

XIX стагоддзе багатае на нязДзейсненыя мары і паламаныя лёсы. Шчодра адорвала талентамі наша зямля сваіх дзяцей, але ў завірусе палітычных катаклізмаў многія з іх не паспелі закрасаваць. Так склаўся і лёс Казіміра Ельскага.

Талент скульптара ў сям'і Ельскіх быў спадчынным. Бацька Казіміра — Караль Ельскі шмат гадоў аддаў упрыгажэнню палацаў і касцёлаў. Разам з Карла Спампані ў 80-х — 90-х гадах

## КАЗІМІР ЕЛЬСКІ І ЯГО ШКОЛА СКУЛЬПТУРЫ

## ЯК САМОТНАЯ ЗНІЧКА

XVIII стагоддзя ён працаваў у Заслаўі каля Мінска, Кухціцах каля Ігумена, Беліцы, Нясвіжы і іншых мястэчках Беларусі. Скульптуры Караля Ельскага ўпрыгожвалі фасады кафедральнага сабора ў Вільні. У 1782 годзе ў Эйсмантах, што непадалёк ад Гродна, у сям'і Ганны і Караля Ельскіх нарадзіўся сын Казімір, якому наканавана было стаць заснавальнікам Віленскай школы скульптуры.

Казімір Ельскі пачатковую адукацыю атрымаў у Віленскай гімназіі, адначасова беручы ўрокі мастацтва ў свайго бацькі. У 1800 годзе ён паступіў у Галоўную літоўскую школу, якая праз тры гады атрымала статус Віленскага імператарскага універсітэта. У той час мастацтва скульптуры было вельмі патрэбным на Беларусі: згодна з кананічнымі правіламі скульптура ўпрыгожвала касцёлы, каталіцкія капліцы і могілкі; ідучы за модай, статуямі ўпрыгожвалі свае палацы, паркі мясцовыя арыстакраты. Эпоха Асветніцтва, галоўным ідэйна-стылявым накірункам якой стаў класіцызм, прынесла зацікаўленне антычным мастацтвам, вяршыняй якога была скульптура. Адсюль і памкненне мясцовых адукаваных вярхоў грамадства — мець у сваім уладанні як мага больш твораў гэтага віду мастацтва.

У той час, калі малады Казімір Ельскі перакрочыў парог адзінай на той час вышэйшай навучальнай установы Беларусі і Літвы, мастацтва скульптуры выкладаў тут прафесар Ле Брун (у некаторых працах гэтае прозвішча пішуць спаланізавана — Лябрэн). Андрэ Ле Брун калісьці працаваў прыдворным скульптарам апошняга караля Рэчы Паспалітай, упрыгожваючы каралеўскія палацы ў Варшаве. Але час мінуў, і састарэлага прафесара запрасілі на пасаду ў Галоўную літоўскую школу, дзе ўпершыню адкрывалася кафедра прыгожых мастацтваў. Ле Брун прывёз з сабою ў Вільню калекцыю скульптуры, бібліятэку. Пасля яго смерці ўсё гэта перайшло ва ўладанне універсітэта. Былы каралеўскі скульптар даў маладому Казіміру пачатковую мастацкую адукацыю. Але паслухаем самога Ельскага. "Вучыўся ў Віленскім універсітэце. Слухаў курсы фізікі, хіміі, натуральнай гісторыі, анатоміі, фізіялогіі, рыторыкі і гісторыі прыгожых мастацтваў. Пастаянна з 1796 года займаўся скульптурай, малюнкам і архітэктурай (Ельскі прыгадвае тут гады вучобы ў бацькі. — С. К.-С.), затым пад кіраўніцтвам архітэктара Лаўрына Гуцэвіча і прафесараў Смугелевіча, Шульца, Ле Бруна і Рустэма. На працягу гэтых гадоў рабіў мадэлі для тынкоўшчыкаў, многа архітэктурных арнаментаў зрабіў у кафедральным саборы; рабіў галовы, часткі фігур і цэлыя статуі з гіпса і дрэва для розных дамоў, касцёлаў і паркаў, некаторыя з іх Смугелевіч паказваў ва універсітэце".

(Заканчэнне на 7-й стар.).







Афіцыйна Дзяды вярнуліся ў наша жыццё некалькі гадоў назад, хаця Дзень памяці, калі паміналіся памерлыя продкі, адзначаўся на Беларусі з незапамятных часоў. Ці не таму столькі гора і бедстваў абрынулася на нашу краіну, што забыліся мы на сваё мінулае, на звычаі і запаветы дзядоў і прадзедаў, якія завяшчалі нам любіць і шанаваць сваю зямлю, не забываць тых, хто жыў на ёй, змагаўся за яе, пакутаваў на ёй і загінуў.

Сёлета 2 лістапада ў Мінску і па ўсёй краіне прайшлі жалобна-ўрачыстыя мерапрыемствы на могілках, каля помнікаў і брацкіх магіл. У Мінску былі Дзяды афіцыйныя, у якіх прымалі ўдзел Прэзідэнт Лукашэнка і члены ўрада, і неафіцыйныя. Прэзідэнт пабываў на Вайсковых могілках і могілках на Маскоўскай шашы, усклаў кветкі да магілы П. Машэрава, народных паэтаў Янкі Купалы і Якуба Коласа, а таксама да брацкай магілы салдат, якія загінулі ў час другой сусветнай вайны.

Народнае шэсце, арганізаванае БНФ, пачалося ад плошчы Незалежнасці ў Мінску. Людзі прайшлі па праспекту Скарыны, усклаўшы кветкі да капліцы каля будынка КДБ. Шматлюдны мітынг адбыўся ў Курапатах, якія сталі сімвалам пакутніцкага шляху нашага народа ў гады сталінскіх рэпрэсій і гітлераўскай акупацыі.

НА ЗДЫМКАХ: Дзяды ў Мінску.

**БУДЗЬМА РАЗАМ І НАДАЛЕЙ**

**Шаноўныя чытачы!**

**Працягваецца падпісная кампанія на 1997 год.**

**Падпішыцеся на "Голас Радзімы", і вы будзеце ў курсе падзей, што адбываюцца ў Беларусі, даведаецеся пра жыццё беларусаў за мяжой, адкрыеце для сябе новыя імёны, пазнаёміцеся з навінамі культуры.**

**Спяшайцеся: падпіска доўжыцца да 30 лістапада.**

**Наш індэкс 63854.**

**Кошт падпіскі:**

**на 1 месяц — 6 тысяч рублёў**
**на 3 месяцы — 18 тысяч рублёў**
**на 6 месяцаў — 36 тысяч рублёў.**

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

## ПАСЛАННЕ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ВЯРХОЎНАМУ САВЕТУ

У адпаведнасці з пунктам 7 часткі першай артыкула 100 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь звяртаюся да вас па пытанню аб захаванні Канстытуцыі і законаў Рэспублікі Беларусь у сувязі з падрыхтоўкай і правядзеннем рэспубліканскага рэферэндуму 24 лістапада 1996 года.

Мной прымаюцца ўсе прадугледжаныя заканадаўствам меры для правядзення рэферэндуму 24 лістапада 1996 года ў абстаноўцы стабільнасці, узаемаразумення і ў строгай адпаведнасці з Канстытуцыяй і законамі Рэспублікі Беларусь. Неаднаразовыя спробы выштурхнуць Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь за рамкі прававога поля і вымусіць да парушэння заканадаўства не ўвянчаліся поспехам. Больш таго, я неаднаразова ішоў на прапанаваныя мне кампрамісы, каб не дапусціць канфрантацыі і абвастрэння становішча ў грамадстве.

Аднак Старшынёй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь пры падтрымцы апазіцыйных Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь сіл была арганізавана чарговая акцыя, накіраваная на недапушчэнне правядзення рэферэндуму ў адпаведнасці з Пастановай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 6 верасня 1996 года "Аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму ў Рэспубліцы Беларусь і мерах па яго забеспячэнню".

Дзейнічаючы наперакор волі Вярхоўнага Савета, выказанай у яго рашэннях, С. Г. Шарэцкі вымусіў Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь разглядзець па ўласнай ініцыятыве справу аб адпаведнасці важнейшых палажэнняў названай пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Канстытуцыі і законам і праз сваіх прадстаўнікоў зрабіў усё магчымае для іх адмены.

Разгляд гэтай справы і прынятае Канстытуцыйным судом рашэнне груба парушаюць Канстытуцыю і законы Рэспублікі Беларусь. Пры гэтым Канстытуцыйны суд, разглядаючы акты, якія не носяць нарматыўнага характару, і робячы заключэнні, не заснаваныя на Канстытуцыі і законах, далёка выйшаў за рамкі прадастаўленых яму паўнамоцтваў.

У выніку народ аказаўся пазбаўленым канстытуцыйнага права прымаць рашэнні, абавязковыя для ўсіх дзяржаўных органаў, а Канстытуцыйны суд выканаў ролю, адведзеную яму працаўнікамі народнага волевыяўлення.

У сувязі з гэтым я прапаную Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь праявіць дзяржаўную мудрасць і спыніць неканстытуцыйныя спробы, накіраваныя на перагляд нормаў Пастановы Вярхоўнага Савета ад 6 верасня 1996 года "Аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму ў Рэспубліцы Беларусь і мерах па яго забеспячэнню", прынятых па ініцыятыве Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Са свайго боку ў адпаведнасці з прадастаўленымі Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь канстытуцыйнымі паўнамоцтвамі зраблю ўсё неабходнае для захавання Канстытуцыі, законаў Рэспублікі Беларусь і рашэння Усебеларускага народнага сходу пры падрыхтоўцы і правядзенні рэферэндуму, у тым ліку абавязковага рэферэндуму па пытанню аб прыняцці прапанаванай мной новай рэдакцыі Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. З гэтай мэтай падпісаны Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, які забяспечвае захаванне ўстаноўленага законам парадку прыняцця такога рашэння на рэферэндуме.

Толькі народ з'яўляецца адзінай крыніцай дзяржаўнай улады.

Перакананы ў мудрасці нашага народа. Спадзяюся на захаванне стабільнасці і правапарадку ў рэспубліцы наперакор імкненням працаўнікаў сапраўднай дэмакратыі.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А. ЛУКАШЭНКА.**

_МОСТ ПРАЗ АРЭСУ_



У Старадарожскім раёне, на месцы старога драўлянага моста праз раку Арэсу, пабудаваны новы, сучасны пяціпралётны мост даўжынёй больш за 75 метраў, грузападымальнасцю 80 тон. Работа мостабудаўнікоў ацэнена на "выдатна".

НА ЗДЫМКУ: новы мост праз раку Арэсу.

_У КАНСТЫТУЦЫЙНЫМ СУДЗЕ_

## ПРЫЗНАЦЬ НЕАДПАВЯДАЮЧЫМ

**Канстытуцыйны суд прызнаў не адпавядаючым Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь пункт трэці пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 6 верасня 1996 года "Аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму ў Рэспубліцы Беларусь і мерах па яго забеспячэнню" ў частцы, дзе гаворыцца аб вынясенні праектаў змяненняў і дапаўненняў Канстытуцыі на абавязковы рэферэндум, рашэнні якога з'яўляюцца канчатковымі і маюць абавязковую сілу на ўсёй тэрыторыі краіны. Вярхоўнаму Савету прапанавана прывесці даную пастанову ў адпаведнасць з заключэннем Канстытуцыйнага суда.**

**Асобае меркаванне па справе выказалі суддзі Васілевіч, Кенік і Філіпчык.**

_АСЕННЯЯ ПУЦІНА_



**На вадаёмах пад Белаазёрскам у Брэсцкай вобласці пачалася асенняя пуціна. Рыба, выгадаваная ў мясцовых гаспадарках, адпраўляецца ў магазіны Брэста і іншых гарадоў.**

**НА ЗДЫМКУ: у садковай рыбнай гаспадарцы пад Белаазёрскам ідзе адлоў карпа.**

_СУД СКОРЫ_

## Леанід МАЛЬЦАЎ УЖО НЕ МІНІСТР

**Як паведаміла служба інфармацыі Савета бяспекі, 1 лістапада Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка сваім указам вызваліў генерал-лейтэнанта Л. Мальцава ад пасады міністра абароны за ўчынак, што дыскрэдытуе воінскае званне афіцэра.**

**Падставай для такога рашэння кіраўніка дзяржавы паслужыла тое, што Леанід Мальцаў прыйшоў на ўрачыстае пасяджэнне, прысвечанае 75-годдзю Мінскага медыцынскага інстытута, у нецвярозым стане. "На жаль, мы страцілі нядрэннага генерала, — заявіў Прэзідэнт, — але жыццё ёсць жыццё, і кожны чалавек павінен адказваць за свае ўчынкі".**

**У той жа дзень Прэзідэнт краіны назначыў выконваючым абавязкі міністра абароны і старшыні калегіі Міністэрства абароны генерал-лейтэнанта Аляксандра Чумакова, начальніка Галоўнага штаба Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь.**

_МАЛЕНЬКІЯ РАДАСЦІ_

## ПАТАННЕЛІ ЛЕКІ

**З 1 лістапада ў Беларусі зніжаны цэны на лякарствы. Аб гэтым рашэнні Міністэрства аховы здароўя паведаміла 31 кастрычніка на праведзенай у Нацыянальным прэс-цэнтры ў Мінску прэс-канферэнцыі для журналістаў міністр аховы здароўя рэспублікі Інеса Драбышэўская. Яна падкрэсліла, што гэты крок не носіць палітычнага характару, а з'яўляецца першым станоўчым вынікам рэформы аховы здароўя, што праводзіцца ў Беларусі.**

**Генеральны дырэктар БелРВА "Фармацыя" Анатоль Гарыеў, які прыйшоў на сустрэчу з журналістамі, удакладніў, што пры водпуску з Рэспубліканскага аптэчнага склада лекавых сродкаў і вырабаў медыцынскага прызначэння аптовыя надбаўкі будуць зніжаны на 5 працэнтаў, а ў аптэках Мінска, якія знаходзяцца на балансе аб'яднання, зніжаюцца на 10 працэнтаў рознічныя цэны. Крыху пазней, з розніцай у некалькі месяцаў, зніжэнне цэн адбудзецца і ў дзяржаўнай аптэчнай сетцы ўсіх абласцей рэспублікі. Анатоль Гарыеў падкрэсліў, што гэты акт накіраваны як на абарону малазабяспечаных грамадзян рэспублікі, так і на скарачэнне асігнаванняў на лекавыя патрэбы з дзяржаўнага бюджэту.**

_СУЗОР'Е БДУ_

## VIVAT, ALMA MATER!

**Яркім святкаваннем завяршыліся ўрачыстасці, прысвечаныя 75-годдзю галоўнай ВНУ рэспублікі. 1 лістапада мінчане змаглі ўволю павесяліцца ў час прадстаўлення, якое разыгралі студэнты БДУ каля Палаца спорту. А вечарам таго ж дня ў самім палацы адбылася грандыёзная шоу-праграма "Віват, альма матэр!"**

**Прысутных прывітаў кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаіл Мясніковіч. Ён зачытаў віншаванне галоўнай ВНУ краіны ад Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі.**

**Навіна, якую паведаміў затым рэктар ВНУ Аляксандр Казулін, была сустрэта вельмі бурна: адна з зорак у сузор'і Андрамеды будзе насіць цяпер імя Белдзяржуніверсітэта. Сертыфікат з гэтай нагоды падпісаў асабіста Біл Клінтан. Такога гонару, дарэчы, былі ўдастоены толькі дзве навучальныя ўстановы ў свеце: універсітэт амерыканскага штата Мічыган і Оксфард. Не магло не абрадаваць студэнтаў і паведамленне аб тым, што цяпер стыпендыя ў БДУ ўстаноўлена на 45 працэнтаў вышэйшая, чым у іншых ВНУ, а зарплата яго выпускнікоў будзе большай на 10 працэнтаў.**

_«ПАДАРУНКІ» ВАЙНЫ_

## РЫБАЛКА "НА МІНУ"

**Магутны выбух прагучаў у двары дома ў вёсцы Білева Віцебскага раёна. Узарвалася міна, якую 20-гадовы гаспадар сядзібы спрабаваў выкарыстаць для глушэння рыбы.**

**Гора-рыбака завезлі ў бальніцу. А яго 18-гадоваму напарніку не пашанцавала: ён памёр на месцы. На кватэры ў загінуўшага — навучэнца аднаго з віцебскіх ПТВ — былі знойдзены яшчэ тры мінамётныя міны, 350 грамаў толу і 223 малакаліберныя патроны. Застаецца толькі гадаць, колькі боепрыпасаў хлопцы ўжо зрасходавалі пры паляванні на карасёў.**

**У той жа дзень жыхары вёскі Ятвезь Ваўкавыскага раёна выкапалі "скарб" — шэсць мінамётных мін часоў Вялікай Айчыннай вайны. На шчасце, удзельнікам земляных работ не прыйшло ў галаву выкарыстаць іх для рыбалкі...**

_ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ_

## «ПРАЦЭС ПАЙШОЎ...»

**За апошнія два гады на Віцебшчыне праведзена 23 аўкцыёны, на якіх набыты ва ўласнасць або ўзяты ў арэнду 59 аб'ектаў гаспадарання.**

**Найбольшым аўкцыённым горадам у вобласці стала Орша, дзе прыватызаваны і прададзены ва ўласнасць дзесяткі магазінаў, кафэ, складскіх памяшканняў. Віцебск — сталіца Прыдзвінскага краю — пакуль адстае. Раздзяржаўленне тут толькі пачалося, і пакуль што прайшоў адзін аўкцыён, на якім было прададзена ўсяго два не надта вялікія аб'екты гарадской гаспадаркі.**

_ЖЫЦЦЁ ПАСЛЯ ЧАРНОБЫЛЯ_



**Адным з вынікаў чарнобыльскай катастрофы стала рэзкае зніжэнне зроку ў насельніцтва Беларусі. У Брэсцкай вобласці школа-інтэрнат для дзяцей з аслабленым зрокам размешчана ў горадзе Жабінка. Дзецям, якія тут вучацца, ужо не могуць дапамагчы справіцца з хваробай нават самыя вядомыя спецыялісты, толькі цярплівыя і кваліфікаваныя педагогі змогуць зрабіць іх адукаванымі і культурнымі людзьмі. У класах тут па сем-дзесяць дзетак, з кожным вядзецца індывідуальная работа.**

**Гледзячы, як ласкава і беражліва адносяцца ўсе 50 педагогаў і выхавальнікаў да сваіх гадаванцаў, з упэўненасцю можна сказаць, што дзеці стануць дастойнымі людзьмі і пасля заканчэння школы вызначацца ў жыцці.**

**НА ЗДЫМКУ: на занятках у першым класе вопытны педагог Зінаіда ХВАЛЬКО і яе вучань Паўлік СТАСЕВІЧ з вёскі Хорава Пружанскага раёна.**

## ПЕРШАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ КАНВЕНЦЫЯ МАЛАДЗЁЖНАЙ ПАЛАТЫ БЕЛАРУСІ

# ПАЧАТАК КАР'ЕРЫ ЛІДЭРА

У Мінску прайшла першая нацыянальная канвенцыя Маладзёжнай палаты Беларусі. Вядомая ва ўсім свеце арганізацыя заявіла аб сабе ў нашай рэспубліцы, сабраўшы на свой першы буйны сход бізнесменаў і прадпрымальнікаў.

Міжнародная маладзёжная палата ўзнікла ў 1910 годзе ў амерыканскім горадзе Сент-Луісе як мясцовая арганізацыя для маладых прафесіяналаў. З цяперашняй назвай Міжнародная маладзёжная палата існуе з 1944 года, калі гэты рух перасягнуў межы краіны-заснавальніцы і яго рэгіянальныя аддзяленні былі сфарміраваны ў многіх краінах свету.

Міжнародная маладзёжная палата з'яўляецца арганізацыяй маладых людзей — перш за ўсё прадпрымальнікаў — ва ўзросце ад 18 да 40 гадоў, якая бачыць сваю місію ў тым, каб прадастаўляць моладзі максімальныя магчымасці адыгрываць значную ролю ў жыцці грамадства і такім чынам садзейнічаць прагрэсу ва ўсім свеце.

Сёння штаб-кватэра ММП знаходзіцца ў Карал Гэйблс, штат Фларыда, а сама арганізацыя праз 80 гадоў пасля пачатку сваёй дзейнасці налічвае каля 500 тысяч членаў, якія належаць да 87 нацыянальных арганізацый, размешчаных больш чым у ста краінах свету. Гаворачы аб узроўні ММП і яе месцы ў міжнародным табелі аб рангах, можна адзначыць, што яна мае сваё прадстаўніцтва ў ААН, яе членамі ў свой час былі англійская каралева Лізавета, Маргарэт Тэтчэр, Рычард Ніксан, Біл Клінтан, Жак Шырак і многія іншыя вядомыя палітыкі. Прысутнасць такіх гучных імёнаў абумоўлена тым, што Міжнародная маладзёжная палата ставіць сваёй галоўнай мэтай падрыхтоўку лідэраў у сусветным маштабе, а таксама ўдасканаленне кожнага як асобы, таму што калі лепшымі робімся мы, лепшым робіцца і свет вакол нас. Паколькі ў ММП прынята не абцяжараная складаным этыкетам і залішнімі ўмоўнасцямі этыка прамых зносін, кожны член ММП, скарыстаўшы даведнік арганізацыі або сетку Інтэрнет, можа выйсці на любога іншага члена арганізацыі з дзелавой прапановай ці просьбай аб дапамозе, і зусім магчыма, што наступным крокам будзе заключэнне ўзаемавыгаднага кантракта. Для таго каб атрымаць крэдыт у рамках Міжнароднай маладзёжнай палаты, дастаткова ўсяго толькі рэкамендацыі члена ММП, і пад яго слова гонару могуць быць выдзелены шматмільённыя доларавыя крэдыты, пастаўлена абсталяванне і матэрыялы. Члены гэтай арганізацыі лічаць, што ўсе пытанні ад простых да самых складаных можна вырашыць пры дапамозе непасрэдных зносін. А для таго каб члены ММП маглі лепш даведацца адзін пра аднаго, у рамках арганізацыі праводзяцца шматтысячныя канферэнцыі. Віцэ-прэзідэнт Беларускай маладзёжнай палаты Аляксандр Іваноў, які быў не на адной такой канферэнцыі, расказваў, што перад канферэнцыяй кожны яе ўдзельнік адказвае на пытанні аб тым, што цікавіць яго больш за ўсё, і ўжо зыходзячы з гэтага, складаецца персанальная праграма, якая ўключае ў сябе сустрэчы, семінары, знаёмства з краінай. На працягу тыдня, у час якога праходзіць семінар, яго ўдзельнікі маюць магчымасць сустракацца з самымі рознымі людзьмі — ад студэнтаў, якія ўсе свае пакуль яшчэ невялікія сродкі ўклалі ў тое, каб стаць членамі ММП і пачаць сваю кар'еру, да буйных палітыкаў, бізнесменаў, вядомых усяму свету асоб. Што ж тычыцца размаху і ўзроўню такіх канферэнцый, то дастаткова сказаць, што спонсарам, напрыклад, нямецкай рэгіянальнай канферэнцыі быў канцэрн "Мерседэс", які ўклаў у яе правядзенне пяць мільёнаў марак. Маладзёжная палата Беларусі існуе ўжо чатыры гады. Гэтая грамадская арганізацыя аб'ядноўвае маладых бізнесменаў, прадпрымальнікаў і кіраўнікоў незалежных прадпрыемстваў недзяржаўнага тыпу. Сваёй мэтай МПБ бачыць стварэнне інтэлектуальнай эліты айчынных дзелавых колаў на падставе асабістых кантактаў прадпрымальнікаў у Беларусі і за рубяжом, інфармацыйную падтрымку дзелавога супрацоўніцтва зацікаўленых арганізацый. Як сказаў першы прэзідэнт Беларускай маладзёжнай палаты Г. Бальдзюсаў, "сённяшнюю сітуацыю ў Беларусі можна ахарактарызаваць, як асобасны калапс. Мы вельмі востра адчуваем недахоп людзей, гледзячы на якіх, можна было б паверыць у заўтрашні дзень краіны. Таму галоўная задача МПБ — выгадаваць тых лідэраў, якія заўтра будуць вызначаць эканоміку і палітыку рэспублікі, прычым, рабіць гэта разумна і з добрым намерам". Па словах прэзідэнта МПБ 1996 года Аляксандра Слаука, "сутнасць членства ў Міжнароднай маладзёжнай палаце заключаецца не ў тым, каб атрымаць ад удзелу ў арганізацыі канкрэтную фінансавую выгаду. Важна, што чалавеку прадастаўляецца магчымасць удасканальваць сябе і свой бізнес праз актыўную дзейнасць у яе рамках". На сёння ў Беларусі існуюць ужо чатыры лакальныя арганізацыі ММП — у Мінску, Віцебску, Смаргоні і Браславе. Распрацавана некалькі значных праектаў, адзін з якіх накіраваны на стварэнне інфраструктуры Нацыянальнага парку на Браслаўскіх азёрах, а другі — "Лідэр" — на фарміраванне палітычнай і эканамічнай эліты рэспублікі са студэнтаў і старшакласнікаў.

Работа, што ажыццяўляецца МПБ, атрымала станоўчую ацэнку кіраўніцтва Міжнароднай маладзёжнай палаты. Сведчаннем гэтага стаў візіт у Беларусь сусветнага прэзідэнта гэтай арганізацыі Томаса Кліра Трэцяга, які адзначыў "вялікае значэнне работы членаў мясцовай арганізацыі ў агульнай справе пераўтварэння навакольнага свету".

На першую нацыянальную канвенцыю Маладзёжнай палаты Беларусі прыехалі прадстаўнікі нацыянальных арганізацый ММП з Фінляндыі, Галандыі, Польшчы і іншых краін. Прыемна адзначыць, што большасць членаў Беларускай маладзёжнай палаты не мела патрэбы ў паслугах перакладчыкаў, добра размаўляючы з гасцямі на англійскай мове. Увогуле ж, арганізаваны ў фестывальным цэнтры "Акварыум" вечар быў на рэдкасць стылёвым, дамы былі ў вячэрніх строях, мужчыны — у смокінгах, і нарэшце над невялікай залай не лунаў дух убогай правінцыйнасці.

Прэзідэнтам Беларускай маладзёжнай палаты на наступны год адзінагалосна была абрана Жанна Няхайчык, прэзідэнт фірмы "Памакс", якая сёлета прымала ўдзел у рабоце 9-й Акадэміі Міжнароднай палаты ў Японіі.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**





# БЫВАЙ, МІЛАЯ ІТАЛІЯ

**Італія. Далёкая ці блізкая! На погляд аўтара, блізкая. Чаму! Бо тут вельмі любяць беларускіх дзяцей. У гэтай краіне створаны для дзяцей і настаўнікаў спецыяльны філіял "Пуэр", які займаецца аздараўленнем тых, хто пацярпеў ад чарнобыльскай катастрофы.**

**Колькі дзяцей-сірот з Дзятлаўскай школы-інтэрната, знаходзячыся ў Італіі, бачылі мора ўпершыню! Гэта і Вера Бобчык, і Уладзімір Галамедаў, і Рая Сарокіна, і многія іншыя.**

**Самым важным, бадай, момантам знаходжання ў Італіі стала аўдыенцыя ў папы рымскага Яна Паўла II у Ватыкане. Спачатку дзеці прысутнічалі на імшы, а потым святы айцец падышоў да дзяцей і благаславіў іх, пажадаў ім выдатнага здароўя.**

**Гэтым летам у Італіі пабывалі шэсцьдзесят два вучні з Дзятлава. Асабліва цікава было ў Рыме.**



**Дзецям паказалі старыя і новыя помнікі архітэктуры і гісторыі. Не горш было і там, дзе жылі, — у горадзе Чэрынела.**

**НА ЗДЫМКАХ: Карла РАЦІ стаў для Інгі МЕЛЬЧУКОВАЙ "татам"; Ю. ЛОБАН і яго сябра з Італіі Т. ЛАРЭНЦА; маладыя італьянкі з нашымі дзецьмі.**

**Іосіф ЗАЯЦ.**

## ПА ЧУЖЫХ СТАРОНКАХ

# СУПРАЦОЎНІЦТВА «VITOL» І МАЗЫРСКАГА ЗАВОДА

Адна з найбуйнейшых у свеце нафтавых кампаній "Vitol" мае намер у бліжэйшы час выдзеліць крэдыт памерам 5 мільёнаў долараў ЗША на рэканструкцыю Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода (НПЗ). Плануецца, што работа па крэдыту будзе працягвацца тры гады.

Па словах кіраўніка прадстаўніцтва кампаніі "Vitol" Леаніда Белага, крэдыт павінен быць выдзелены на вельмі выгадных умовах, асабліва калі ўлічыць, што "Vitol" сам будзе яго пагашаць. Кампанія гатова да далейшага сур'ёзнага супрацоўніцтва, і гэта абвяргае распаўсюджаную думку аб тым, што беларускай нафтаперапрацоўкай ніхто, акрамя расійскіх нафтавых кампаній, не цікавіцца.

Крэдыт кампаніі "Vitol" пойдзе на завяршэнне рэканструкцыі рыформінга і на будаўніцтва першай чаргі ўстаноўкі вісбрэкінга на Мазырскім НПЗ. У выпадку, калі работа па крэдыту будзе паспяховай, "Vitol" разгледзіць магчымасць выдзялення больш буйнога крэдыту на далейшую рэканструкцыю завода.

Сёння кампанія "Vitol" пастаўляе на мазырскі завод 50 тысяч тон нафты штомесяц. Акрамя таго "Vitol" мае намер садзейнічаць Мазырскаму НПЗ у атрыманні чарговага крэдыту ў рамках крэдытнай лініі германскага ўрада "Гермес", а магчыма, і выступіць гарантам па крэдыту. (Сёння завод ужо асвоіў два крэдыты па лініі "Гермес" на агульную суму 100 мільёнаў нямецкіх марак).

Кампанія "Vitol" дзейнічае на беларускім рынку пяць гадоў. Цяпер яна працуе па шэрагу праектаў, звязаных з павышэннем актанавай лічбы бензіну хімічным шляхам. На адной з беларускіх нафтабаз пасля чатырох месяцаў лабараторных даследаванняў пры выкарыстанні ўласнай тэхналогіі "Vitol" выраблена першая партыя бензіну АІ-92 аб'ёмам восем тон. Кампанія плануе ў хуткім часе пачаць вытворчасць высокаактанавага бензіну (АІ-95 і АІ-98) хімічным шляхам на базе Мазырскага НПЗ.

Вядома, крэдыт памерам 5 мільёнаў долараў ЗША — значны, тым больш, што прыток сродкаў з боку прыватных замежных інвестараў у эканоміку Беларусі сёння мізэрны, а краіна востра мае патрэбу ў інвестыцыях. Пакуль што кампанія "Vitol" не лічыць мэтазгодным значна расшыраць свае інвестыцыі ў беларускую эканоміку, бо сітуацыя ў краіне працягвае заставацца нестабільнай.

Што тычыцца эканамічнага эфекту ад супрацоўніцтва, то на сёння дзейнасць "Vitol" на беларускім рынку можна назваць дабрачыннасцю. Цяпер самае важнае для кампаніі — стварыць эфект прысутнасці на рынку: у выпадку стабілізацыі сітуацыі "Vitol" такім чынам зможа атрымаць пэўныя перавагі.

Дарэчы, на рынках іншых краін СНД "Vitol" працуе значна актыўней, чым у Беларусі. У Расіі дзейнічаюць 11 прадстаўніцтваў кампаніі, на Украіне — 4, у Казахстане — 6. Не так даўно ў выніку тэндэра "Vitol" набыў адзін з найбуйнейшых казахскіх нафтаперапрацоўчых заводаў за 230 мільёнаў долараў ЗША і абавязаўся інвесціраваць сродкі ў рэканструкцю прадпрыемства.

**Вольга ТАМАШЭЎСКАЯ. ("Белорусская деловая газета").**

# УНІЯЦТВА Ў ЛЁСЕ БЕЛАРУСКАГА НАРОДА

Праціўнікі уніяцтва заяўляюць, што, акрамя павагі да беларускай мовы, яно нічога вартага не дало для духоўнай культуры нашага народа і ў гэтым значна ўступае праваслаўнай і каталіцкай цэрквам. Бясспрэчна, магчымасці ў апошніх для стваральнай, творчай дзейнасці былі непараўнальна лепшыя, чым у беднай уніяцкай царквы, паколькі яны ўвесь час падтрымліваліся дзяржавай, мелі для гэтага неабходныя фінансавыя і грашовыя сродкі, таленавітых у розных сферах духоўнага мастацтва людзей. Але ж усе створаныя імі для праваслаўных і каталіцкіх храмаў мастацкія творы не ідуць ні ў якое параўнанне з тым, што зроблена уніяцкай царквой для захавання мясцовых традыцый, беларускай мовы, а значыцца і для ўсведамлення яе носьбітамі сябе як самабытнага этнасу.

Знаёмячыся з літаратурай па пытаннях гісторыі рэлігіі на Беларусі, прыходзіш да высновы, што і праваслаўная, і каталіцкая цэрквы найбольш за ўсё ненавідзелі уніяцкую рэлігію менавіта за выкарыстанне ёю хоць эпізадычна беларускага слова ў час вядзення асноўнага набажэнства. Лепшыя магчымасці для барацьбы з ёю былі ў каталіцкай царквы, паколькі яна разам з уніяцкай знаходзілася ў межах адной і той жа федэратыўнай дзяржавы — Рэчы Паспалітай. А найбольш дзейсным сродкам для такой барацьбы прызнавалася любымі праўдамі і няпраўдамі прапхнуць ва уніяцкія святары асобаў прапольскай арыентацыі, выхаваных у польскай культурна-моўнай стыхіі. Кепскае валоданне мовай набажэнства уніяцкай царквы, а не — дык і проста знявага да яе слова з'явіліся прычынай, што сярод такіх святароў траплялiся асобы, якія не супраць былі ўвесці ў літургію нават латынь, а ў павучаннях да народу і ў навучанні яго малітвам ужывалі польскую мову, што, зразумела, выклікала вялікі пратэст у вернікаў, паколькі такое разглядалася імі як парушэнне нацыянальных традыцый уніяцкай царквы.

Вышэйзазначаная катэгорыя уніяцкіх святароў хутчэй за ўсё была выключэннем, чым правілам. У асноўным жа уніяцкі клір складаўся з асобаў, думкі і ўчынкі якіх цалкам падпарадкоўваліся, адпавядалі нацыянальным інтарэсам беларускага народа. Ніхто так, як яны, не клапаціўся ў той час аб захаванні яго этнічнай самасвядомасці. І захаванне яе нейперш дасягалася праз шанаванне роднага слова вернікаў. Ужыванне уніяцкай царквой беларускай мовы параджала вялікую павагу да апошняй з боку прыхаджан, аб чым засведчыў нават самы люты яе вораг літоўскі мітрапаліт І. Сямашка: "Увесь грэка-уніяцкі народ размаўляе мовай беларускай альбо маларасійскай (г. зн. украінскай. — **Л. Л.**), — дзеці уніяцкага духавенства ў доме сваіх бацькоў і па-за ім амаль выключна чуюць гэтую мову, — яны забываюцца на яе ўжо ў польскіх школах".

З прыведзенай цытаты вынікае, што беларускае слова панавала ў сем'ях уніяцкіх святароў, што надавала яму жыццёвасць, рабіла ўстойлівым да асіміляцыі. Таму не дзіва, што ў такіх сем'ях, а таксама ў школах, дзе настаўнічала уніяцкае духавенства, выгадавалася шмат асобаў, якія пакінулі прыкметны след у гісторыі і культуры беларускага народа, вызначаліся высокім узроўнем нацыянальнай самасвядомасці. Дакументальна пацверджана, што ў шляхецкай уніяцкай сям'і паблізу Оршы нарадзілася маці Тадэвуша Касцюшкі Тэкля Ратомская. Вернай гэтай рэлігіі засталася яна і пасля пераезду ў вёску Даўгаліскі Берасцейскага (цяпер Люблінская) ваяводства, у якой была уніяцкая царква. Менавіта гэтай царкве Т. Касцюшка ахвяраваў у 1785 годзе атрыманы з рук самога амерыканскага прэзідэнта Д. Вашынгтона ордэн Цынцыната.

Цалкам пагаджаюся з меркаваннем сучаснага беларускага гісторыка Георгія Штыхава, што ў канцы XVIII стагоддзя "уніяцкая царква набліжалася да нацыянальна-беларускіх пазіцый, ва ўсякім разе не ў меншай меры, чым гэта можна гаварыць, пра дзейнасць праваслаўных брацтваў". Роля уніяцтва ў духоўным жыцці нашага краю з асаблівай сілай праявілася пасля таго, як у выніку падзелу Рэчы Паспалітай Беларусь трапіла пад уладу Расійскай імперыі, і грэка-рымскай царкве трэба было адстойваць свае канфесійныя і нацыянальна-культурныя інтарэсы беларускага народа не толькі ад акаталічвання і апалячвання, але і ад усялякіх спробаў з боку свецкіх і духоўных уладаў Расіі зрусіфікаваць яго, прымусіць адрачыся ад сваёй уніяцкай веры і прыняць праваслаўную. А такія спробы распачаліся адразу ж пасля падзення Рэчы Паспалітай. У ход былі пушчаны і прымус, і падман.

## 6. ЧУЖАЯ СЯРОД СВАІХ

Самыя трагічныя для уніяцтва дні надышлі з далучэннем Беларусі да Расіі ў выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай. Цяпер у вернікаў гэтай канфесіі замест аднаго злосніка — каталіцкага касцёла з'явіўся другі, не менш небяспечны — праваслаўная царква. Першы злоснік не мірыўся з уніяцтвам за захаванне ім усходняга абраду, а другі — за яго адданасць заходнім догмам. Дзівішся, адкуль толькі моц бралася ва уніятаў у адстойванні сваіх рэлігійных традыцый, на якія рабілі замах такія дзве магутныя канфесіі. Прычыну такой з'явы трэба шукаць у адданасці вернікаў уніяцтва рэлігіі сваіх бацькоў. Не будзь такой адданасці, уніяцтва не дажыло б да падзелаў Рэчы Паспалітай, а дажыўшы, не працягнула б і аднаго-двух дзесяткаў гадоў, ужо апынуўшыся пад уціскам дзяржаўнай Рускай праваслаўнай царквы.

Расійская імператрыца Кацярына II і самыя блізкія да яе прадстаўнікі высокіх свецкіх і духоўных колаў разумелі, што такую масавую і даволі ўжо традыцыйную для беларусаў і ўкраінцаў з'яву, як уніяцтва, ніяк нельга было ігнараваць. Выступаць адкрыта і рашуча супраць яго не выпадала з-за рэзка адмоўнай рэакцыі Еўропы на факт падзелаў Рэчы Паспалітай трыма самымі магутнымі на той час імператарамі.

Каб выпрацаваць ва ўсіх адносінах прадуманую палітыку ў дачыненні да уніятаў, Кацярына II распарадзілася даць указанне вядомаму рускаму дваранскаму гісторыку і археографу, кіраўніку Маскоўскага архіва Калегіі замежных спраў Мікалаю Бантыш-Каменскаму (1737—1814) сабраць аб гэтым неабходныя звесткі. У жніўні 1796 года такія звесткі ўжо былі сістэматызаваны і ўхвалены, "але толькі праз 10 год пасьля сьмерці царыцы наступіў "найвышэйшы дазвол" на выданьне працы Бантыш-Каменскага з гісторыі вуніі з наданьнем брылянтавага пярсьцёнка ад імператара".

Відаць, не спяшаліся з надрукаваннем такой кнігі таму, што не ўсе лічылі крайне неабходным бавіць марна час на вывучэнне з'явы, якую можна выраШыць адным росчыркам пяра. Гэта калі уніяты жылі ў іншай дзяржаве, тады меліся цяжкасці схіліць іх адмовіцца ад сваёй веры і прымкнуць да чужой. Цяпер жа становішча карэнным чынам змянілася. Нягледзячы на сваё абяцанне шанаваць мясцовыя звычаі, Кацярына II з велізарнай згоды і пры падтрымцы праваслаўнага духавенства ўчыніла такі націск на уніятаў, што да 1794 года ўжо больш за тры мільёны іх было далучана да ўсходняй царквы. За гэта яе кіраўнікі гатовы былі ўзвесці імператрыцу ў ранг святых. Вядомыя і такія факты, што толькі за паўтара года пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у праваслаўе ўдалося вярнуць 1,5 мільёна беларускіх уніятаў. Без уціску і гвалту з боку свецкіх і царкоўных уладаў Расіі такога пераходу з адной канфесіі ў іншую ніколі б не назіралася. Гэта былі зусім не тыя падыходы, што ўжываліся ў дачыненні да праваслаўных ва ўсе часы пасля падпісання Берасцейскай царкоўнай уніі. І ўсё ж, каб не наклікаць на сябе гневу, Кацярына II у 1794 годзе прымае ўказ з вельмі дыпламатычнай назвай: "Аб устараненні ўсялякіх перашкод к звяртанню уніятаў да праваслаўнай грэчаскай царквы". Такую перашкоду вельмі лёгка можна было знайсці ва ўсім, што не задавальняла Рускую праваслаўную царкву. Віноўніку падобнай перашкоды пагражала суровае пакаранне, бо нават самая нязначная з іх кваліфікавалася як крымінальнае злачынства. Звяртае на сябе ўвагу і такі факт, як прыняцце дзяржавай шэрага прадпісанняў аб забароне уніяцкім святарам схіляць у сваю веру праваслаўных. Відаць, такое мела месца, бо інакш навошта ўводзіць забарону? А вось што і з далучэннем беларускіх земляў да Расіі здараліся выпадкі пераходу праваслаўных ва уніяцкую веру, лішні раз даказвае, што для такой канфесійнай метамарфозы не характэрным быў прымус. Лагічна падумаць, што забаронай схілення праваслаўных ва уніяцтва царскі ўрад своечасова паклапаціўся аб тым, каб не дапусціць распаўсюджвання такой непажаданай для яго з'явы ўжо на карэнных рускіх землях.

Азнаямленне з літаратурай аб дзейнасці грэка-каталіцкай царквы ў канцы XVIII — першых дзесяцігоддзяў XIX стагоддзяў ставіць пад вялікае сумненне сцвярджэнні некаторых рускіх дарэвалюцыйных гісторыкаў, што ў той час назіраўся добраахвотны масавы пераход беларускіх уніятаў у праваслаўе. Зразумела, ён не мог ажыццяўляцца скрозь толькі пад прымусам, але што перамене веравызнання папярэднічала сур'ёзная, да дробязяў прадуманая ідэалагічная апрацоўка праваслаўнымі святарамі людзей уніяцкай веры — гэта неаспрэчны факт. Сітуацыю, якая склалася неўзабаве пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай, так характарызуе добры знаўца гісторыі рэлігіі Мікалай Нікольскі (1877—1959): "Сярод сялян была пушчана чутка, што за прыняцце праваслаўя іх адбяруць ад паноў (польскіх. — **Л. Л.**) і перададуць у казну, — а становішча дзяржаўных сялян было лягчэйшае за памешчыцкіх. Паноў папярэджвалі афіцыйна, што ўсялякае супрацьдзеянне з іх боку будзе кваліфікавана як крымінальнае злачынства і выкліча за сабой аддачу пад суд і секвестр маёнткаў. Свецкім уладам — генерал-губернатару, губернатарам і земскай паліцыі — было прадпісана (указам Кацярыны II ад 22 красавіка 1794 года. — **Л. Л.**) аказваць духоўным уладам "усялякую дапамогу і абарону"... Губернатары дзейнічлі проста, праз "пераканаўчую параду" уніяцкаму духавенству далучыцца разам з прыхаджанамі да праваслаўя, а нязгодных папоў арыштоўвалі і высылалі; у адных мясцовасцях уніяцкія папы дыпламатычна згаджаліся і затым займалі пазіцыю чакання, а ў іншых месцах, як, напрыклад, у некаторых прыходах Магілёўскай і Полацкай губерняў, разам з памешчыкамі арганізоўвалі сялянскія бунты, што прымусіла начальства прызадумацца".

У больш спакойны час, калі не вялі франтальнай кампаніі па далучэнні грэка-рымскай царквы да праваслаўя, шырока ўжывалася і індывідуальная растлумачальная размова з вернікамі, аднак усё ж найчасцей з самімі уніяцкімі свяшчэннікамі, паколькі ад асабістых поглядаў, паводзін іх амаль цалкам залежала стаўленне паствы да сваёй царквы. Але і ў падобных выпадках не абыходзілася без падману і шантажу, а сям-там і прымусу. Таму, калі пагадзіцца з меркаваннямі тых вучоных, што пісалі пра масавы добраахвотны пераход уніятаў у праваслаўе, тады зусім нельга вытлумачыць прычыну, чаму пазней, калі Павел I прызнае супрацьзаконным акт пераводу уніятаў у праваслаўе, амаль усе яны выкажуць жаданне адысці ад апошняга. Праўда, на гэтым шляху ўзнікнуць досыць сур'ёзныя перашкоды: волю імператара зусім не пажадае выконваць праваслаўнае духавенства. Сярод іх заўсёды было шмат прыхільнікаў самых жорсткіх метадаў абыходжання з грэка-католікамі. Такімі прыкладамі багатая гісторыя рэлігійнага жыцця на Беларусі.

Так, калі задумалі уніятаў вёскі Нача на Барысаўшчыне перавесці ў праваслаўныя, сюды 23 чэрвеня 1795 года прыслалі прыстава Барысаўскай акругі Івана Цісава, двух праваслаўных папоў і некалькі жаўнераў. Натуральна, не паслухацца іх ніяк не выпадала: такая сілішча на баку праваслаўных! Не даў запалохаць сябе толькі уніяцкі святар Аляксандр Самовіч, які пасля забароны збірацца ў царкве стаў правіць службу ў гумне аднаго з недалёка размешчаных ад Начы засценкаў. Неўзабаве сюды сталі сыходзіцца ўсе яго былыя уніяцкія парафіяне. Давялося ўмяшацца суду, якому ад сялян было заяўлена, што іх гвалтам далучылі да праваслаўя. Вось чаму на перыяд судовага разгляду справы ў сем'ях прымусова далучаных да праваслаўнай царквы сялян мелася 29 нехрышчоных дзяцей і 9 чалавек пахавана без адпявання ў храме. Суду не ўдалося выбіць у сялян згоду зноў вярнуцца ў праваслаўе, як у адказ на такое супраціўленне 9 сялян і уніяцкага святара Александра Самовіча арыштавалі, а над ахрышчанымі па-уніяцку дзецьмі здзейснілі аналагічны праваслаўны абрад. Праўда, неўзабаве арыштаваных па ўказанні Мінскага губернскага праўлення вызвалілі, чаму садзейнічалі адпаведныя дэмакратычныя перамены ў рэлігійным жыцці краіны. Уніяты так асмялелі, што нават скаргу на імя самога цара Паўла I паслалі ў снежні 1796 года. Пазней у іх з'явілася нагода ўвайсці ў непасрэдны кантакт з імператарам, калі ён у час наведвання Беларусі завітаў 8 мая 1797 года разам з сынамі Аляксандрам і Канстанцінам на начлег у Начу. Але цар у самой падачы заявы ад імя прыхаджан убачыў небяспечнае злачынства і аддаў загад арыштаваць трох сялян, а ў Начу накіраваць роту "гренадер для прекращения беспокойств, происходящих от прежде бывших униатов противу благочестивой церкви, после того как они раньше присоединились было к оной." Кожнаму з трох арыштаваных сялян прысуджалася нанесці па пяцьдзесят удараў бізуном і вырваць ноздры. Пасля гэтага жыхары Начы згадзіліся далучыцца да праваслаўнай царквы, што дало падставы Мінскаму гарадскому суду вызваліць ад усялякай адказнасці уніяцкага святара Аляксандра Самовіча.

Актывізацыя дзейнасці праваслаўнага духавенства на толькі што далучаных да Расійскай імперыі беларускіх землях абавязвала і уніяцкіх святароў штосьці такое канкрэтнае рабіць, каб не даць сваім парафіянам збіцца з правільнага шляху. У гэтых мэтах выкарыстоўваліся розныя формы вусных і пісьмовых зваротаў да народа, што, зразумела, не падабалася ні праваслаўнай царкве, ні самому імператару. Каб пакласці гэтаму канец, цар Павел I 17 сакавіка 1797 года паслаў на імя уніяцкага мітрапаліта Тэадоса Растоцкага рэскрыпт наступнага зместу: "Пан Растоцкі. Я атрымаў ад генерала-лейтэнанта Бекляшова данясенне, што ў губернях, яму дадзеных, пачалі уніяты публічна ўчыняць розныя шаленствы, разбэшчванне і нават нахабнасці, як яны найбольш узбуджаны прамоваю, нібыта вамі сказанаю і ў многіх месцах на польскай мове спісам рассеяным. Дадаючы пры гэтым адну з такіх, я загадваю вам у абвяржэнне лжывасці гэтага выдаць і неадкладна туды накіраваць угаворны ліст да уніятаў духоўнага і свецкага звання, якога копіі прышліце да мяне, каб яны, застаючыся ў межах паслушэнства законнай улады, устрымаліся ад усялякіх непрыстойнасцяў і самавольстваў, за якое ставяць сябе пад строгае і непазбежнае пакаранне". На наступны дзень гэты ж цар выдаў маніфест, у адпаведнасці з якім памешчыкам і іншавернаму духавенству забаранялася тайна ці адкрыта бунтаваць праваслаўных, перашкаджаць людзям пераходзіць у праваслаўную веру. Заўлялася аб недапушчэнні ўгаворамі ці гвалтам далучаць праваслаўных да уніяцкай царквы, што назіралася ў некаторых месцах. У далейшым за такія ўчынкі прапаноўвалася ўжываць "пакаранні па ўсёй строгасці закона".

Асабліва актыўна падтрымліваў пасля першага і другога падзелаў Рэчы Паспалітай лінію на безагаворачнае вяртанне уніятаў у праваслаўе ўкраінскі і беларускі пісьменнік, прафесар філасофіі і палітыкі, магілёўскі архіепіскап Георгій Каніскі (1717—1795, г. Нежын), які прыехаў на Беларусь з Кіеўскай духоўнай семінарыі, дзе ён пэўны час працаваў прафесарам, а з 1751 па 1755 год быў рэктарам яе. Ад Магілёўскай праваслаўнай епархіі Г. Каніскі ездзіў у 1762 годзе ў Маскву на каранацыю Кацярыны II і прынёс ёй, пісаў А. Пушкін, "сетования народа, издревле нам родного, но отчужденного от России жребиями войны". Тут, як бачым, у магілёўскага архіепіскапа не хапіла сціпласці, бо як можна было гаварыць ад імя народа, да якога ты этнічна не належыш, скардзіцца, прасіць у імператрыцы заступніцтва, што яна і пастаралася зрабіць з дапамогай тонкай, хітрай дыпламатыі і ваеннай сілы. У сваіх працах Г. Каніскі вельмі перабольшваў ролю адміністрацыйных фактараў у распаўсюджванні на Беларусі уніяцтва, затое не хацеў заўважаць іх пасля далучэння Магілёўшчыны да Расійскай імперыі. А тады ж дзеля вяртання уніятаў у праваслаўе гэтым фактарам надавалася надзвычай важнае значэнне. Дарэчы, Магілёўская губерня, як ніякая іншая, вельмі хутка дасягнула істотнага абмежавання уніяцтва на сваёй тэрыторыі, у чым, несумненна, перш за ўсё заслуга самога архіепіскапа Г. Каніскага. Яго зусім не хвалявала, што такія змены ў канфесійным жыцці вернікаў адбываліся не без падману і гвалту з боку праваслаўнага кліру і мясцовай адміністрацыі, паслухмянай цэнтру.

Ужо на першым часе пасля далучэння беларускіх земляў да Расіі некаторыя храмы уніятаў перайшлі да праваслаўных. Так здарылася ў 1794 годзе і з храмам Увваскрашэння Хрыстова (Мінск), які пасля выкананага ў наступныя два гады рамонту стаў называцца Кацярынінскім праваслаўным саборам.

**Леанід ЛЫЧ.**

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 39-45**

*ПІСЬМЫ З-ЗА МЯЖЫ*

# СПАДЗЯЮСЯ І МАЛЮСЯ

Паважаны рэдактар!

Чытаў "Голас Радзімы" № 39, і мне кінуўся ў вочы загаловак "Дабрачыннасць", пад якім здымкі паказваюць будову пасёлка "Дружны" нямецкай дабрачыннай арганізацыяй "Дамы замест Чарнобыля". Тут у нас, у Вялікабрытаніі, таксама добрыя людзі пра лёс многапакутнага беларускага народа не забываюцца, а ў меру магчымасці жадаюць памагаць. У каталіцкім тыднёвіку "The Universe" змешчана вестка (якую залучаю), дзе пішацца, што каталіцкі клуб моладзі св. Патрыка ў Ньюпорт Валія змог сабраць 17 грузавікоў медычных і іншых прыладаў і даставіць іх у Мінск як падарунак ад дабрачыннай брытанскай арганізацыі "Фонд дзіцячым ахвярам чарнобыльскай аварыі".

Пажаданым было б, каб не толькі дабрачынныя арганізацыі заходніх дзяржаў стараліся памагаць беларускаму народу, а таксама іхнія ўрады. На жаль, да гэтае пары такой дапамогі не бачна. Паўстае пытанне, чаму? Як відома, да гэтае пары Беларусь не прынята ў эканамічны Еўрапейскі саюз, які змог бы больш памагчы беларускай эканоміцы. Беларусь не выйшла на вольны рынак, а надалей трымаецца старой савецкай эканамічнай палітыкі. Гэтая палітыка вядзе Беларусь да ізаляцыі ад Захаду.

Беларускі ўрад павінен змяніць палітыку "ход на Усход", а пачаць навязваць больш цесныя эканамічныя і палітычныя сувязі з заходнімі дзяржавамі. Расія сама перажывае эканамічны і палітычны крызіс, таму яна Беларусі многа ў чым не зможа памагчы.

Спадзяюся і малюся, што пры Боскай помачы прыйдзе час, калі беларускі народ перастане дзяліць сябе па рэлігійных канфесіях, а аб'яднаецца і пачне адбудоўваць незалежную Беларусь на ўзор заходніх дэмакратычных дзяржаў.

**С. БУДКЕВІЧ.**

Англія.

**ШАНОЎНАЯ РЭДАКЦЫЯ!**

**Пасылаючы гэтыя ўспаміны, выконваю свой чалавечы доўг, які многія гады вісеў на душы. Цяпер справа за вамі. Апублікуйце, калі ласка: людзі павінны ведаць такое, каб не варочацца ў тыя часы (Божа, ратуй Беларусь).**

# РЭКВІЕМ НЕВЯДОМАМУ ДЗІЦЯЦІ

Было гэта зімою 1940/41 гадоў. Я, тады шасцігадовы хлапчук, жыў з бацькамі ў Баранавічах. Аднойчы мы з маткаю апынуліся па нейкай справе на чыгуначнай станцыі. Памятаю, быў сонечны і марозны, вельмі халодны дзень. На станцыі я адразу адчуў нейкую напружанасць усіх дарослых, якія знаходзіліся там. Усе паглядалі на таварны цягнік, што стаяў на дальніх пуцях. З акенцаў пад самым дахам вагонаў выбівалася пара, а ў марозным паветры над цягніком насіўся людскі гоман.

"На Сібір... вязуць... людзей..." — чуліся навакол прыглушаныя словы. І раптам мы ўбачылі... Між пуцямі крочыў вайсковы і нёс пад пахаю штыўны трупік маленькай, мо трохгадовай, дзяўчынкі. Залатыя валасы, перавязаныя блакітнай стужкай, гойдаліся ў такт крокам. Усе знямелі. "Людцы мае, што ж гэта робіцца!" — загаласіла мая маці, а за ёю і іншыя жанчыны. "Маўчыце, бабы, калі самі не хочаце там апынуцца, — сказаў немалады чыгуначнік. — Гэта вязуць ворагаў народа..."

Я ўпершыню ўбачыў смерць у такім аблічы. Да гэтага смерць была нечым таемным і ўзвышаным, яна была акружана вялікаю павагаю. Да дзвярэй, за якімі ляжаў нябожчык, пасыпалася сцежка з яловых галінак, нябожчыкаў вазілі тады на чорным катафалку, і ўсе, хто сустракаўся па дарозе, знімалі шапкі, хрысціліся; памерлых адпявалі ў царкве ці ў касцёле.

Пазней, у час вайны і акупацыі, я ўбачыў і іншыя жудасныя карціны, але гэтая застапася найбольшым узрушэннем не толькі дзяцінства, але і ўсяго жыцця. Мо таму, што гэта было не ў часе вайны?

І падумалася цяпер: тая дзяўчынка, ці яна не тое "дзіця Дастаеўскага", слязінкі якога не вартае ўсё шчасце свету? Задзьмухнулі слабы агеньчык жыцця, якое толькі пачалося, парвалі нітачку часоў. Не было ў яе ні дзяцей, ні ўнукаў, і невядома, ці застаўся ў жывых хто з родных, каб памянуць і аплакаць яе на Дзяды. Дык няхай мо гэтыя некалькі радкоў будуць рэквіемам па загубленай нявіннай душы. Памянём, людзі, Невядомае Дзіця.

**Альберт МІТЭР.**

г. Новасібірск.



# ВЯРТАННЕ НА РАДЗІМУ «РАЗВІТАННЯ З РАДЗІМАЙ»



Кароль Залускі і яго родны брат Іва жывуць у Англіі. Цікавяцца музыкай, іграюць на фартэп'яна. Нядаўна сярод аматараў класічнага стылю з'явіўся іх супольны дыск пад нечаканай для беларуса (ды і англічаніна) назвай: "Музыка дынастыі Агінскіх". На ім запісаны 18 паланезаў Міхала Клеафаса Агінскага (1765—1833), накцюрны, мазуркі і марш яго ўнука, сына адной з дачок Міхала, Караля Бернарда Залускага (1834—1919). Выконвае ж іх творы Іва Залускі.

Чым жа тлумачыцца такая цікавасць да кампазітараў, з якіх першы доўгі час жыў у Беларусі, у маёнтку Залессе каля Смаргоні, а другі, верагодна, нарадзіўся там? Ды тым, што Кароль і Іва Залускія — прамыя нашчадкі легендарнага аўтара паланеза "Развітанне з радзімай". Кароль рашыў прысвяціць яму сваю англамоўную кніжку, доўга і ўпарта збірае пра яго матэрыялы па ўсёй Еўропе — ад Масквы да Парыжа. Зразумела, што не мог ён не наведаць радзіму сваіх продкаў (Агінскія першапачаткова мелі беларускае прозвішча Глушонак), радзіму чароўнага паланеза. Пабываў у Залессі, у Мінску, у Барысаве, дзе высвятляў магчымасці экспарту ў Англію мясцовых піяніна. Паездкі садзейнічаў пасол Беларусі ў Вялікабрытаніі Уладзімір Шчасны, а дабрадзеем паездкі выступіла спадарыня Ала Атрошчанка, якая з беларускага боку ўзначальвае фірму "Лондан—Мінск".

У Мінску, у Акадэміі музыкі і Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Ф. Скарыны, адбыліся сустрэчы госця з беларускай навуковай і творчай грамадскасцю. Вяліся размовы з Вольгай Дадзёмавай і Віктарам Скорабагатавым пра будучыя гастролі ў Англіі лепшых беларускіх выканаўцаў — з тым каб вырučаныя грошы пайшлі праз Фонд Агінскага на аднаўленне Залесся. І, вядома ж, гучала музыка — і ў непасрэдным выкананні, і ў відэазапісах. Госць быў здзіўлены.

— Чаму ў Польшчы амаль не ведаюць Агінскага, а тут яго так любяць і паважаюць?

Субяседнікі растлумачылі: тут карані як самога Агінскага, так і яго музыкі. Да таго ж ён быў "сепаратыстам" Вялікага Княства Літоўскага (у яго гістарычным сэнсе), патрыётам сваёй радзімы, што адбілася і ў палітычнай дзейнасці, і ў музыцы.

Развітваючыся, Кароль Залускі абяцаў, што ў яго англійскай кніжцы пра Агінскага з'явіцца новы раздзел — беларускі. Самы цікавы.

**Наталля МАРЦЫНКЕВІЧ, рэферэнт МАБ.**

**НА ЗДЫМКАХ: Кароль ЗАЛУСКІ ў Скарынаўскім цэнтры; нашчадак роду Агінскіх Кароль ЗАЛУСКІ.**

*МІЛАСЭРНАСЦЬ*

# З КЛОПАТАМ ПРА АБЯЗДОЛЕНЫХ

Дзякуючы намаганням рэспубліканскага недзяржаўнага дабрачыннага фонду "Дзецям Чарнобыля" ў Жлобіне на базе арэнднага прадпрыемства "Рэстаран "Космас" пачала дзейнічаць першая ў раёне дабрачынная сталовая для бедных. Гэтая падзея прайшла сціпла, без урачыстых прамоў. Запомніліся хіба толькі з любоўю сервіраваныя столікі ды ўдзячныя вочы віноўнікаў гэтага мерапрыемства — састарэлых людзей, інвалідаў, якія разам з праваслаўным свяшчэннікам айцом Барысам у сваёй агульнай малітве дзякавалі Богу за аказаную ім міласэрнасць.

Задаволенасць добрым пачаткам справы можна было заўважыць і ў вачах асноўнага арганізатара гэтай акцыі старшыні Жлобінскага аддзялення згаданага дабрачыннага фонду Генадзя Вараб'ёва. У нашай размове ён адзначыў:

— Па лініі нашага фонду гэта ужо другая ў Беларусі падобная дабрачынная сталовая. Першая была адкрыта каля года таму ў Мінску і вось цяпер — у Жлобіне. Асноўныя фінансавыя выдаткі на сябе бярэ, канешне, фонд, але ў такой справе без мясцовых спонсараў не абысціся. І добрых слоў у свой адрас ужо заслужылі мясцовы мясакамбінат (дырэктар С. Кузьмянкоў), саўгас-камбінат "Ніва" (генеральны дырэктар А. Кадзет) і, зразумела, рэстаран "Космас", на які ўскладзены немалыя клопаты. Садзейнічаў нашай справе і старшыня гарсавета дэпутатаў В. Байкачоў. У далейшым мы спадзяемся, што да гэтай дабрачыннай акцыі па меры сваіх магчымасцей далучацца іншыя мясцовыя прадпрыемствы, арганізацыі, бізнесмены, рэлігійныя абшчыны.

Дапаўняючы сказанае Генадзем Вараб'ёвым, дададзім, што такая падтрымка вельмі будзе да месца, бо падобныя дабрачынныя абеды будуць штодзённымі за выключэннем суботы і нядзелі ды святочных дзён. Колькасць тых, хто будзе харчавацца ў сталовай аднachасова, складзе з цягам часу не менш шасцідзесяці чалавек (пакуль у арганізатараў хапіла моцы на сорак пяць чалавек). Ды не лішнім будзе і нейкі транспарт, каб дастаўляць да месца старых людзей з аддаленых куткоў горада.

**Мікалай ШУКАНАЎ.**

*У МАГІЛЁЎСКАЙ ПАЛОНІІ*




Дом польскай культуры зрабілі з старога будынка ў горадзе Магілёве польскія будаўнікі з Кракава. Гэта была ініцыятыва Магілёўскага гарадскога аддзела Саюза палякаў, а сродкі дала "Всупульнота польска" — грамадская арганізацыя Польшчы, якая апякуецца сваімі суайчыннікамі за мяжой. Тут плануецца размясціць аптэку, магазін, кафэ з польскай кухняй, невялікі атэль і выставачную залу, у якой, дарэчы, ужо размяшчалася дакументальная фотаэкспазіцыя, што расказвала аб гісторыі Польшчы.

**НА ЗДЫМКУ: так выглядае "Дом польскі" ў Магілёве.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

## З ПАЭТЫЧНАГА СШЫТКА

Сяргей ГРАХОЎСКІ

### ЗАГАДКАВЫ ЛЁС

Я шукаю дарогу і сцежку
І ніяк не здалею знайсці,
Каб дзіцячую ўспомніць усмешку
І слязінку ў суровым жыцці.
Пагубляў, параскідваў, растраціў,
Што знаходзіў, бярог і любіў,
І не ўспомню, — на фэсце ці свяце
Быў калі ці ніколі не быў.
За туманам гадоў засталося
Срэбра росных і зорных начэй
І жаданне, каб золкая восень
З даўняй памяці знікла хутчэй.
Узнікалі, знікалі аблічвы
У сваёй і ў чужой старане,
Толькі болей ніхто не пакліча
І не ўспомніць ніколі мяне.
Да былога хачу дакрануцца
І паклікаць сяброў праз гады,
У юнацтва і сталасць вярнуцца,
Не мінаючы нават бяды.

На няўдачы я не наракаю,
Больш нічога не хочацца мець.
Ну а што я дагэтуль шукаю,
Нават сам не магу зразумець.
У апошніх гадоў завірусе,
У надзеях, часцей у журбе,
Як загадкавы лёс Беларусі,
Разгадаць не здалею сябе.

15/XI—96.

### ПАКАЯННЕ

Дарагая! Ну вось мы з табой і сівыя,
Дачакаліся ўнукаў, а шчасця чакаем дарма.
За акном то дажджы, то завея завые,
То пастукае ў шыбу сівая зіма.
Мы былі удваіх пад захмараным небам,
Нам здавалася — шчасця з гарчынкай стае,
Як настылае пайкі казённага хлеба,
Як усмешкі, як горкай слязінкі твае.
Мы чакалі сустрэч, а ліхія разлукі
Чарадою адна за другою ішлі.
Сэрца сэрца шукала, а кволыя рукі
Нечакана настылыя рукі знайшлі.
Маладосць нечакана ўваходзіла ў сталасць,
І з паўслова душа разумела душу.
На апошнім вітку нам дабра нетавала...
Я і суд над сабой, і расправу вяршу,
І караю сябе за пралікі і страты
І за тое, што ў горы адзін вінаваты.
Нас калісьці лічылі шчаслівымі ў свеце:
Запрашалі ў госці, збіраліся ў нас.
Мы любілі дзяцей, шанавалі нас дзеці,
А з гадамі і гэты агеньчык пагас.
На апошняй вярсце, на апошнім парозе
Сэрцу сэрца патрэбна, рука — саслабелай руцэ,
Каб у згодзе прайсці, што яшчэ засталося,
Покуль разам не зікнем у вечнай рацэ.
Ты прыйшла на зямлю пад Каляднаю зоркай.
Я цябе не збярог. Нас не мілуе лёс.
Як цяпер ні балюча, ні цяжка, ні горка,
Ты ўсё церпіш адна і маўчыш, як Хрыстос.
Дай Табе, Усявышні, хоць трошачкі шчасця,
Без трывог, і пакут, і бяссонных начэй,
Каб яшчэ пратрымацца, каб разам не ўпасці,
Покуль нашым унукам не стане лягчэй.
Божа, дай Табе сілы да новага веку,
Як святому няскоранаму Чалавеку.

6/1—94 г.

### ЗМАН

*Хлусяць толькі адны нягоднікі.*
*Ф. М. Дастаеўскі.*

Навучаны ашукваць і хлусіць
Стараецца, каб верылі падману,
Каб пелі, калі трэба галасіць,
Каб дзякаваў за ласку абабраны,

Бо хлусяць, як хлусілі з веку ў век,
Сілком у "шчасце" гоняць зацугляных
І на знявагу, і на здзек
Да скону з нараджэння пакараных.

Даверлівы агледзіцца пасля,
Што ён лісліва ашуканы,
Пакуль не атрымае кухталя
Замест абяцанай боскай манны.

Ашукваюць сумленных гандляры,
Бо маюць прагу, спрыт і шанцы.
Мінае ўсё. Балюйце да пары,
Пакуль не трапіце у пекла, ашуканцы.

26/X—96.

# І СЛОВА НЕ МОЎКНЕ, НЕ ЦІХНЕ, НЕ ГАСНЕ...

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

ўспрымаецца як чытальнік досыць разумны, каб марна растрачваць эмоцыі, і даволі чулы, каб не ўзгарэцца ад выказанага ў радку паэтам настрою. Я згодны з той дамай за пультам гуказапісу: сапраўды, гэта фірменнае імя на радыё — "Марыя Захарэвіч". Яго ведаюць тысячы і тысячы слухачоў. Яе голас добра знаёмы многім, яго чакаюць людзі, настройваючы прыёмнікі на хвалю Беларускага радыё.

Яшчэ больш высокую рэпутацыю мае Марыя Георгіеўна там, у ваколіцах ненаглядная красы возера Нарач. Адзін купалавец падараваў мне такі аповяд:

— Ведаеш, аднаго разу мы... ну купалаўцы... неяк усе разам і згодна адчулі, што наш тэатр... мо і сапраўды лепшы ў свеце. Выязджалі з гастрольнымі выступамі ў Мядзел. Божачка, які гром грымеў у небе ад Баторына да Мястра! Маляўніча папрыбіраныя бабы, мажныя мужыкі, як той казаў, з мазалямі на руках так заазарціліся пляскаць у ладкі — небу горача. А з'явіцца на падмостках Маша, дык апладысменты і аглушыць могуць. Зямлячка. Дзяўчо з Навасёлак. З тутэйшых бароў. Тутака немаўля і голас падала, галасістая, матка казала. На ўсю Беларусь малеча абазвалася: чуеце, артыстка нарадзілася! Дык не, ты пакуль расцеш, і карову даглядай, і гарод прапалоць упраўся, і касой памахай на тым лузе мурожным... Падрасла — глядзі ты на яе, сам жа Бог наказаў, значыцца, будзе навасёлкаўская Машка актрысай, во! Ат, няма чаго казаць, дарма ў найлепшы ў свеце тэатр не ўзялі б. І на якую арбіту ўзляцела: лепшая ў лепшым... Га!

Слухаю акцёрскі аповяд і прыгадваю выпадкі, калі сам пасля якога спектакля або ў пісьменніцкім клубе, дзе яна выступае на нашых вечарынах, адчуваю памкненне падысці, падзякаваць, пацалаваць удзячна руку Марыі Георгіеўне. Ды толькі... Пачакайце, вось яшчэ прыгадваецца, як заезджы з далёкага замежжа беларус, заўважыўшы гурт прыхарошаных артыстаў, якія крочылі праз пісьменніцкі натоўп у фае, спытаў, ці няма сярод іх Марылі Захарэвіч, якую ён слухае па радыё ў сваім заакіянскім Кліўлендзе. А вунь яна — у цемнаватым, з квяцістым шалем на плячах.

— Самая сціплая з усіх актрыс, перад якімі я пакланяўся і пакланяюся, — сказаў наш госць пасля вечарыны, паспеўшы пацалаваць ёй руку і ўзрушана падзякаваць "за вашага Багдановіча" (а Багдановіч у вуснах актрысы і сапраўды гучыць "ейным Багдановічам", калі яна дэкламуе: "Ім не пабачыць роднай хаты..." ці "Ёсць на свеце такія бадзягі...").

Сціплая... Мабыць, справядліва кажуць знаўцы, што шчырая сардэчнасць чалавека загадвае яму быць сціплым, не выхваляцца і не фанабэрыцца. Сціпласць у адносінах душы тое ж самае, што сарамлівасць у адносінах да цела. Ну а само акцёрскае прызванне ці не мае ў сабе такога рухавіка, як прага агульнага прызнання, жаданне вылучыцца, прывабіць, нат захапіць! А гэта ў каго як. У прагнага да славы бярэ верх фатаўство, ён пачынае рысавацца і там, дзе, бадай, няма ніякай патрэбы, кіруючыся падказкамі свайго хітра вытанчанага розуму. Сціплы, той цалкам давярае свайму відушчаму сэрцу і чуйнай душы.

Калі М. Захарэвіч выходзіць на паклон гледачам, калі прымае кветкі ад паклоннікаў, бачыш, што і ёй дарагія знакі пашаны да яе творчай працы. А сам наблізішся і раптам затрымліваешся: ці патрэбны ёй твае пахвальныя словы, ёй, заўсёды нібы засяроджанай на якойсьці сваёй думцы, сваім настроі. Ветлівая яе ўсмешка забараняе табе выдыгаць і рассыпацца камплiментамі перад ёю. Кажуць, недаступнасць жанчыны наогул — ці не самае шыкоўнае ўбранне, якое падкрэслівае яе душэўнае хараство. Мо інтуітыўна таго прытрымліваецца і Марыя Захарэвіч.

Такое сціплае зіхаценне таленавітай натуры праменілася яшчэ ў аднаго выхадца з Нарачанскага краю — у Максіма Танка. Зямляк. Жэня Скурко з Пількаўшчыны. Зграбная фігура, велічная паходка лёгкай постаці, адкрыты твар з чубатай хваляй валасоў над ілбом, азёрнага блакіту вочы, у якіх іскрыцца сонечны водбліск. Паэт (з вялікай літары), — чаму б і не пакрасавацца! А Яўген Іванавіч непрымусова і натуральна трымаўся цнатліва сціпла ў чарадзе лаўрэатаў, "жывых класікаў", прэтэндэнтаў на вышэйшыя ўзнагароды і званні. Цяпер яны штосьці пабляклі, а то было тоўпіліся ля начальніцкіх прыёмных.

Адкуль жа ў нарачанскіх тутэйшых гэтая па-шляхецку прыродная далікатнасць, ці не на ўзроўні генетычнай спадчыннасці? Аднакроць я закрануў гэтую тэму і пачуў ад Марыі Георгіеўны напалову жартаўліваe тлумачэнне. Яна ўпэўнена: чалавек — сумарная істота і складаецца з розных фактараў, першымі сярод якіх спрадвеку былі і застаюцца бацькі, мамка-карміцелька, месца і час нараджэння, паветра і надвор'е, святло і гук, ежа і адзенне... Воля і манера паводзін, нават тэмперамент — гэта непазбежнае наступства памянёных фактараў. Унутраным слыхам Маша Захарэвіч і дасюль чуе матчын спеў... яе рот помніць смак бацькоўскага бохана, які вымаюць з печы, нібы цёплы дыск жнівеньскага сонца, ад якога святлее ў хаце... За шыбамі гарадской кватэры ёй здаецца часам напеў берасцянага пастушынага рога... А хваёвыя вершаліны бачацца ёй ажно сінімі, якімі яны бываюць там, ля Нарачы, дзе высяцца векавыя мачтавыя сосны... Духмяная аблога, зарослая піжмай... Раскіданыя па сенажаці копы і стагі парыжэлага сена... І жураўліны вырай шнурамі ў небе, і тое развітальнае "курлы-курлы"... Паэт падобны настрой выказаў радком: "Яны са мной — і мною сталі".

Я здагадваюся, што і М. Захарэвіч, мабыць, адчувае гэта, бо галасы і гукі... маляўнічасць красак і пошум дубровы... з маленства ўсё роднае, нібы музыка тваёй душы, уліваецца ў рух, у плынь і ў ток крыві, прымушаючы трымцець тымі ўражаннямі дзяцінства твае сэрца. І — голас. Яе голас — актрысы Марыі Захарэвіч.

Мажліва і яе акцёрская індывідуальнасць вызначаецца гэтым. Скажы мне, якія песні спявалі над тваёй калыскай, ад якога каравая адрэзаў табе брат лусту вясельнага пірага, хто першы падсадзіў цябе на каня... Скажы, родам з якога дзяцінства ты, і я зразумею прыроду твайго артыстычнага почырку, прыроду мастакоўскай асобы.

Я не ўпэўнены, што мы, тэатралы, адразу заўважылі талент М. Захарэвіч. Летапісцы купалаўскай сцэны ўпершыню ўпамінаюць яе імя сярод удзельнікаў спектакля пяцьдзесят сёмага года "Пакуль вы маладыя". Гэта быў і драматургічны дэбют Івана Мележа. Там, я помню, вар'іравалася не дужа новае пытанне: якім варта быць савецкаму маладому чалавеку, каб рабіць па заслугах кар'еру і не пляміць сваё сумленне. Дзейнічалі энергічныя, дапытлівыя, не застрахаваныя ад жорсткіх памылак персанажы. І Галя Жураўка актрысы М. Захарэвіч была па-дзявочы стромкай прыгажуняй, якая чула перажывае сваркі і рознагалоссі ў студэнцкім асяроддзі. Музыкі яна не псавала, але і той актрысай, што цяпер нам вядома, сябе яшчэ не заяўляла.

— Ой, не кажыце! Я іх усіх і сама не памятаю, гэтых маіх Галак ды Ларысак, Ганначак ды Лізавет, — прызнаецца яна. — Тады ж наогул было модна, каб мастак... актрыса... марыла пра ролю сучасніцы... перадавіка сацспаборніцтва... ахвярнай патрыёткі... І драматургі давалі нам такія ролі... "блакітныя"... Нібы і дзяўчо, але чалавечай асобы з яе аніяк не атрымліваецца...

Мушу прызнацца, што і мне неяк цьмяна ўяўляюцца ранейшыя Кацярыны ды Ларысы актрысы М. Захарэвіч у сучасным рэпертуары. Яна паўстае ў маёй памяці як натхнёны мастак у характарах, апанаваных багатымі пачуццямі, бывае, і дзівацкімі, задзірыстымі або панурымі, пыхлівымі або ласкавымі, дэспатычнымі або хвалююча млявымі. Актрыса, якой патрэбны ў ролі гэткі... Як бы сказаць дакладней? Гэткі пэўны і адначасова рухавы нораў. Каб свавольства не аціхала ў ёй. Тады і ў вачах блісне штосьці шалёнае (або пяшчотнае), і голас заструменіць споведдзю-песняй жаночай — ці забубенна хвацкай, ці набалела маркотнай, ці кранальна задумлівай. Або выбухне агністым маналогам ці тужлівым прызнаннем. Як прагавіта імкнулася чэрпаць поўнымі прыгаршчамі сваю бабскую радасць, хай сабе і спехам, адным махам, у салодкай і трывожнай ліхаманцы яе Ганна Карпілава ў драме "Плач перапёлкі" Івана Чыгрынава! Чэрпала і нібы захлыналася ад пякучага гора, якое застае яе знянацку як Божае пакаранне. Нешта падобнае здарылася і з яе Машай у "Эшалоне" М. Рошчына. Гэтая гераіня таксама прагне шчасця ў ваеннае ліхалецце і разумее жаночую радасць па-свойму, захоўваючы напускную суровасць, за якой тоіцца выключна чулая душа. Спагадлівая. Нат лёгка ранімая. Дзіўны кантраст!

— Але, мне імпануюць наравістыя характары, у якіх я знаходжу "зачэпку", каб нешта разварушыць у сабе, здзівіцца, адкрыць нечаканае, — прызнаецца актрыса.

І я распытваю яе, ці гэтымі "зачэпкамі" тлумачыцца псіхалагічная глыбіня яе Зосі Савіч і Наталлі Фадзееўны ў творах І. Шамякіна "Сэрца на далоні" і "І змоўклі птушкі". Мяне ўражвалі ў гэтых ролях М. Захарэвіч яе вочы, поўныя тужлівых слёз, сутаргава зведзеныя на грудзях рукі ў кулаках, і гэтыя інтанацыйныя фарбы ў праявах жаночага прадчування небяспекі, гора, роспачы. Яе Варвару ў "Навальніцы" А. Астроўскага наогул можна было нават толькі слухаць, і перад вамі паўставала гарэзліва-зухаватая, можна сказаць, песенная душа, і неўтаймаванае памкненне да шчасця толькі замацоўваецца ў ёй пад уражаннем ад лёсу сяброўкі — Кацярыны Кабановай. Трымайся, Ваня Кудраш!..

Ёй адчувальна даспадобы драматургічныя тэксты, якія маюць найменне класічных. Там гераіні жывуць натуральнымі жаночымі страсцямі, і іхняе каханне сапраўды расплятае туга сплеценае, размякчае скарчанелае, расхіствае моцныя апоры, разнявольвае забароненае. Не, актрыса М. Захарэвіч не акцэнтуе тое, не падкрэслівае апантанасць жаночага сэрца, яна ў вобразе — жыве гэтым. І пачуццё зіхаціць і раптам цямнее, гасне, каб схавацца ў глыбіні яе голасу, які то пульсуе скрытым болем, то намякае на свае вольналюбівыя намеры, то мілагучна афарбуе звычайную рэпліку акордам мяккай пяшчоты, то бязгрэшным тонам пажаліцца на сваю адзіноту, то прастадушна заахвоціць недарэчна баязлівага Адама да мужнага ўчынку... Такой мне бачыцца яе Незнаёмая Мона ў "Безыменнай зорцы" М. Себасцьяна і Раіса Паўлаўна Гурмыжская ("Лес" А. Астроўскага), Алена Пратасава ў "Дзецях сонца" М. Горкага і Ліза Хрэнава ў даўнім "Традыцыйным зборы" В. Розава...

Яе мастацтва не дае нам забываць на тое, што нашы чалавечыя гарачыя пачуцці, гарачая кроў наша — бы моцны вецер, ён поўніць ветразі карабля, гонячы яго да жаданага берага, бывае, і пагібелі. Ды без такіх ветраў не тое, што мы, адзінкі, заставаліся б пячорнымі людзьмі, а і чалавецтва марнела б на ніжніх прыступках культуры, з якіх як быццам і валіцца больш няма куды, і ўзняцца да сонца немагчыма.

Шчыра прызнаюся: усё тое, што я гавару пра актрысу М. Захарэвіч, ажывае ўва мне, калі я слухаю сёння яе голас па радыё. Вось прашалясцела кніжная старонка. Паўза — і яна чытае. Не! Яна спавядаецца радкамі Таісы Бондар. Спачатку ледзь чутна. Грамчэй. І мілагучна: "Любоў? Гляджу на сонечны адбітак у люстры — і сябе не пазнаю: Ніколі не лілося так адкрыта Бязмежнае святло ў душу маю..." Ах, хораша гэта — слухаць голас артыста, які пераконвае нас, што гэта ім, артыстам, зведана: ад моцнага і шчырага пачуцця бязмежнае святло нам льецца ў душу!

Дзякуй за тое святло, за тую надзею на святло сапраўды народнай нашай Машы Захарэвіч!

Барыс БУР'ЯН.

# ЯК САМОТНАЯ ЗНІЧКА

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

У 1804 годзе Казімір Ельскі за выкананыя работы атрымаў ад універсітэта ўзнагароду і ступень кандыдата прыгожых мастацтваў. Але набытых у Вільні ведаў не хапала. Універсітэт не мог даць такую прафесіянальную падрыхтоўку, як сусветна вядомыя мастацкія акадэміі — у Санкт-Пецярбургу, Рыме ці Парыжы. Ельскі марыў паехаць у адну з гэтых навучальных устаноў. Ды дзе ўзяць грошы? На дапамогу прыйшоў выпадак. Знаёмства з вяльможнай мецэнаткай Катарынай Броэль-Платар забяспечыла юнаку фінансавую падтрымку. У 1809 годзе Казімір едзе ў Пецярбург, дзе ў той час выкладаў таленавіты Мартас і была свая школа скульптуры ў Мастацкай акадэміі. Тры месяцы правёў Казімір Ельскі ў Пецярбургскай акадэміі мастацтваў. Ён атрымаў магчымасць вучыцца ў такіх знакамітых майстроў, як Ф. Шубін, Ф. Шчадрын, М. Казлоўскі, І. Пракоф'еў, якія вялі заняткі ў скульптурным класе акадэміі. Вучоба ў Пецярбургу не толькі многаму навучыла Ельскага як скульптара, але дала яму магчымасць асэнсаваць сябе як педагога. У далейшым, выкладаючы ва універсітэце, скульптар з Беларусі выкарыстаў метадычныя прынцыпы педагагічнай сістэмы Мартаса.

Пасля вяртання ў Вільню Казімір Ельскі прадставіў у Раду універсітэта выкананыя за апошнія гады работы. Поспехі таленавітага скульптара былі ўзнагароджаны званнем магістра прыгожых мастацтваў, што давала яму права прэтэндаваць на выкладчыцкае месца ва універсітэце. Састарэлы прафесар Ле Брун, які большую частку года хварэў, ужо не мог весці заняткі, а пасады ад'юнкта ў той час ва універсітэце не знайшлося. Але захапленне скульптурай і жаданне праявіць свае здольнасці педагога перамаглі меркантыльныя разважанні. На працягу трох гадоў (1811—1813) Казімір Ельскі выкладаў ва універсітэце мастацтва скульптуры бясплатна. У 1814 годзе пасля смерці Ле Бруна ён быў нарэшце залічаны на пасаду ад'юнкта. Ельскі вельмі энергічна ўзяўся за рэарганізацыю школы скульптуры. Фактычна да яго яна існавала толькі на паперы. Не было кабінета скульптуры, які так патрэбны не толькі маладым скульптарам, але таксама мастакам, у праграму падрыхтоўкі якіх уваходзіла маляванне нежывых мадэляў, а таксама і гравёрам, якія вучыліся працаваць з глінай і гіпсам. Уладкаванне кабінета скульптуры было справай цяжкай. Копіі твораў знакамітых антычных і заходнееўрапейскіх майстроў каштавалі вельмі дорага, не ўсё можна было зрабіць не месцы, многае даводзілася выпісваць з-за мяжы і з Пецярбурга. Крыху дапамагла калекцыя, пакінутая Ле Брунам, шмат чаго Ельскі зрабіў сам. Фактычна да 1818 года кабінет скульптуры Віленскага універсітэта, дзякуючы намаганням Ельскага, быў ужо амаль уладкаваны. Тут былі копіі статуі Лаакаона, бюсты Станіслава Аўгуста Панятоўскага, Пятра I, графа і графіні Агінскіх, Кацярыны II, прафесараў Віленскага універсітэта і шмат іншых. Казімір Ельскі паступова ўдасканальваў праграму выкладання. Сёння ў рукапісным аддзеле бібліятэкі Віленскага універсітэта захоўваецца напісаная ім праца аб неабходнасці спалучэння выкладання скульптуры з іншымі прыгожымі мастацтвамі і навукамі, перш за ўсё анатоміяй, фізіялогіяй, гісторыяй мастацтва.

Колькасць вучняў у скульптурным класе год ад года павялічвалася. Калі Ельскі афіцыйна стаў выкладчыкам універсітэта, гэты клас наведвала толькі сем чалавек. Але ўжо праз некалькі гадоў іх было больш дваццаці. Сярод навучэнцаў Ельскага былі такія знакамітыя мастакі, як Валенцій Ваньковіч, Міхал Кулеша, Ціт Бычкоўскі і іншыя. Але найлепшым сярод іх быў, безумоўна, Вінцэнцій Смакоўскі, які пасля працягваў вучобу ў Пецярбургскай акадэміі мастацтваў. Менавіта яго бачыў Ельскі сваім будучым спадкаемцам — выкладчыкам класа скульптуры. Дарэчы, Смакоўскі ў час вучобы ў Пецярбургу дапамагаў уладкоўваць кабінет скульптуры — закупляў некаторыя статуі і матэрыялы. Але аб Вінцэнціі Смакоўскім, які сёння пакуль што мала вядомы на Беларусі, трэба будзе калісьці расказаць асобна.

Не ўсе вучні, якія наведвалі скульптурны клас, жадалі ў далейшым звязаць свой лёс з мастацтвам скульптуры. Большасць з іх атрымлівала толькі пачатковыя веды, каб затым выкарыстаць іх у сваіх занятках жывапісам, анатоміяй, біялогіяй. Былі і проста аматары, якія хацелі валодаць асновамі скульптурнага мастацтва дзеля моды. Тыя, хто абраў прафесію скульптара, з'яўляліся, у пераважнай большасці, выхадцамі з маламаёмнай або ўвогуле беднай шляхты і спадзяваліся такім чынам у далейшым забяспечыць сабе сродак для існавання.

У Віленскім універсітэце, пачынаючы з 1821 года, праходзілі выставы твораў вучняў і прафесараў аддзялення прыгожых мастацтваў. Ельскі і яго вучні прымалі ў іх актыўны ўдзел. Што ж выстаўляў Ельскі на гэтых паказах? Перш за ўсё, зробленыя ім бюсты прафесараў Віленскага універсітэта. Дарэчы, адным з першых ён зрабіў партрэт свайго настаўніка — Андрэ Ле Бруна. Многія аўдыторыі універсітэта былі ўпрыгожаны работамі выдатнага віленскага скульптара — тут былі не толькі бюсты, статуі, але таксама барэльефы, арнаменты, медальёны і іншыя работы. Многія скульптуры, зробленыя Ельскім, упрыгожылі каталіцкія касцёлы — касцёл у Краславе, Віленскі кафедральны касцёл і іншыя. Здавалася б, лёс спрыяе таленавітаму майстру. Але хутка ўсё змянілася.

Раскрыццё тайных таварыстваў у Віленскім універсітэце, якое было працягам універсітэцкіх пагромаў, распачатых яшчэ ў 1829 годзе, значна паўплывала на сітуацыю ў гэтай навучальнай установе. Новы куратар і папячыцель Віленскай навучальнай акругі Навасільцаў, які насцярожліва ставіўся да любой праявы самастойнасці прафесараў і выкладчыкаў, імкнуўся перабудаваць саму структуру універсітэта. Ён дамогся адмены выбарнасці рэктара, пачаў перагляд вучэбных праграм, перапрацаваў нават сам статут універсітэта. Неўзабаве ў іншы свет адправіўся Аляксандр I, які даволі ліберальна ставіўся да мясцовых прапольскі настроеных дзеячаў культуры. На змену яму прыйшоў Мікалай I, які распачаў актыўную русіфікацыю беларускіх і літоўскіх земляў. Лёс Віленскага універсітэта, "гнездилища литовского вольнодумства", як называлі яго русіфікатары, аказаўся пад пагрозай. Першы ўдар быў нанесены па школе скульптуры. Чаму так адбылося — гэта патрабуе дадатковага тлумачэння.

У беларускай навуковай літаратуры (з лёгкай рукі аднаго шаноўнага нашага мастацтвазнаўцы) склалася меркаванне, што школа скульптуры, якую ўзначальваў Казімір Ельскі, была закрыта з-за ўдзелу яе вучняў у тайных таварыствах. Нібыта і сам Ельскі неабыякава ставіўся да філарэтаў і філаматаў і быў замешаны ў гэтай гучнай справе. Але сярод вучняў класа скульптуры, бадай што, толькі Міхал Кулеша быў у шэрагах кіраўнікоў тайнага таварыства, ды і той наведваў клас скульптуры эпізадычна, больш часу праводзячы ў жывапісным класе пад кіраўніцтвам прафесара Рустэма. Не быў замешаны ў справе філарэтаў і сам Ельскі. Сенатар Навасільцаў, якога цяжка "абвінаваціць" у лаяльнасці ў адносінах да выкладчыкаў універсітэта і які ўсімі сродкамі "раздзьмухваў" справу аб тайных таварыствах, каб нажыць на ёй палітычны капітал, адзываўся аб Казіміры Ельскім як аб чалавеку надзвычай ціхім, сціплым, апантана занятым сваім мастацтвам. Па-за скульптурай гэтага выкладчыка мала што цікавіла.

У справе закрыцця школы скульптуры спрацавала дзве акалічнасці. Перш за ўсё, прычыны гэтага трэба шукаць, на мой погляд, у палітыцы расійскага ўрада адносна касцёла. Менавіта ў сярэдзіне 20-х гадоў гвалтоўна пачынаецца наступленне царызму на тыя пазіцыі, якія займаў касцёл на Беларусі. Ужо ў 1828 годзе пачынаюць закрывацца кляштары, касцёлы і капліцы пераўладкоўваюцца на праваслаўныя цэрквы. Скульптура, якая была адным з галоўных элементаў упрыгажэння каталіцкіх храмаў, у гэтых умовах апынулася па-за межамі палітычных сімпатый расійскіх улад. Адначасова з Віленскай была закрыта і Варшаўская школа скульптуры. Цяпер атрымаць падрыхтоўку ў гэтай галіне мастацтва можна было толькі ў Пецярбургскай акадэміі мастацтваў, а там адсутнічала праграма па духоўнай скульптуры. Такім чынам, улады пазбаўлялі каталіцкі касцёл магчымасці ўпрыгожваць свае храмы работамі мясцовых прафесіяналаў. У справе закрыцця Віленскай школы скульптуры адыграла сваю ролю, як гэта ні дзіўна, і памкненне Ельскага павысіць узровень выкладання. Маўляў, не высоўвайся — не будуць чапаць. У 1825 годзе Ельскі падаў на імя Навасільцава і універсітэцкай рады прашэнне аб прадастаўленні яму замежнай вандроўкі. Для атрымання звання прафесара, на якое ён даўно мог прэтэндаваць, Ельскаму не хапала толькі паўнавартаснай замежнай вучобы, лепш за ўсё ў Рыме. Як выкладчык універсітэта, як пераможца яшчэ ў студэнцкія часы некалькіх конкурсаў, ён меў поўнае права на такую вандроўку. Акрамя таго, Ельскі прасіў павялічыць асігнаванні на ўтрыманне класа скульптуры, на павелічэнне экспанатаў у скульптурным кабінеце. Прашэнне Ельскага было пададзена Навасільцавым на разгляд Мікалая I. Магчыма, каб не ініцыятыва віленскага скульптара, ягоная школа ціха пражыла б яшчэ некалькі гадоў. Але зварот Навасільцава да цара вырашыў справу. На прашэнні Ельскага Мікалай наклаў сваю рэзалюцыю: школу скульптуры закрыць "за ненадобностью". Не дапамаглі ні просьбы Ельскага, ні хадайніцтва самога Навасільцава — у 1826 годзе скульптурны клас быў закрыты.

Ельскі пакуль што застаўся ва універсітэце — захавальнікам кабінета скульптуры і разьбы, але ўжо не выкладаў. У 1832 годзе, калі Віленскі універсітэт быў закрыты, таленавіты скульптар застаўся без сродкаў да існавання. У 1833 годзе ён беспаспяхова прасіў аб месцы выкладчыка ў Кракаўскім універсітэце. Але Кракаў быў тады аўстрыйскім, а памяняць грамадзянства было справай складанай.

Жыццё, якое бліскуча пачалося, скончылася бясслаўна. Апошнія гады Казімір Ельскі правёў у галечы. Сродкі для існавання ён знаходзіў, будуючы паравыя млыны і ладзячы ангельскія кухні ў дамах мясцовай шляхты і мяшчан. Памёр наш зямляк у 1867 годзе ў Вільні. Праз усё жыццё Казімір Ельскі пранёс захапленне мастацтвам скульптуры, нават калі ўжо не было надзеі, ён марыў аб адкрыцці школы разьбы і скульптуры ў Вільні. Але неаднаразовыя спробы зрабіць гэта засталіся безвыніковымі.

Лёс Казіміра Ельскага — тыповы прыклад становішча таленавітага беларускага майстра ў Расійскай імперыі. Гэтым жа шляхам прайшлі Паўлюк Багрым, Ян Чачот, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч і дзесяткі іншых паэтаў, мастакоў, музыкантаў. Руйнаванне самабытнасці беларускай нацыі, як і літоўскай, польскай, ды і іншых "инородческих", было справай звычайнай у той час: пад коламі расійскай паліцэйскай машыны нішчыліся таленты, мары і спадзяванні.

**Святлана КУЛЬ-СЯЛЬВЕРСТАВА,**
**кандыдат гістарычных навук, дацэнт.**

# «И ТОМЯЩАЯ ГРУСТЬ, И ЗОВУЩАЯ ПАМЯТЬ...»

***ДА 60-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ СЛОНІМСКАГА ПАЭТА РУДОЛЬФА ПАСТУХОВА***



У адным з пакояў ягонай гарадской кватэры вісіць вялікая карціна. Гэта партрэт Рудольфа Пастухова, які намаляваў слонімскі мастак Пятро Бурсевіч. Цудоўны партрэт, сапраўдны твор мастацтва. Углядаюся, маўчу, і на думку прыходзяць словы юбіляра:

**Снова ты,**
**а во мне уходящее лето...**
**Но все те же мечты,**
**И все те же рассветы,**
**И томящая грусть,**
**И зовущая память...**
**Ну, и пусть!..**

Нават і не верыцца, што гэтаму энергічнаму, вясёламу, дасціпнаму і таленавітаму ад прыроды чалавеку ўжо 60 гадоў. На партрэце — такі малады і апантаны, побач са мною за сталом — пасталелы, спакойны і шчыры.

Лёс Рудольфа Пастухова не песціў. Рана застаўся без бацькоў. Рос і выхоўваўся ў ГУЛАГу. Першы верш з'явіўся ў насценнай газеце Буйскай дзіцячай працоўнай калоніі Кастрамской вобласці ў 1951 годзе. Аб чым ён быў, нават сам аўтар не памятае. Бо было гэта сорак пяць гадоў назад — яшчэ адзін юбілей. Але два апошнія радкі усё ж запомніліся назаўсёды, як і той рэжым у калоніі:

**И звукі горна подняли**
**с постели**
**Воспитанников Буйской ДТК.**

Шляхі-дарогі Рудольфа Пастухова кідалі па ўсёй былой вялікай дзяржаве. У 1970 годзе ён прыехаў у Слонім, каб застацца тут на ўсё жыццё. Праз год у слонімскай раённай газеце з'явілася яго першая паэтычная падборка. Яна захавалася да сённяшняга дня. Уважліва чытаю. Многае адразу кладзецца на душу:

**Если любишь — возьми**
**и во всём растворись,**
**Вот тогда проживёшь**
**настоящую жизнь.**

Неяк напісаўшы добрую нізку вершаў, паехаў Рудольф Пастухоў у "Гродзенскую праўду" да Васіля Быкава, які працаваў тады ў гэтай газеце літкансультантам. Васіль Уладзіміравіч уважліва прачытаў творы, а праз пэўны час лепшыя з'явіліся на старонках абласной газеты. Пасля былі новыя публікацыі. Вершы нашага земляка друкаваліся ў часопісах "Нёман", "Крыніца", штогодніку "Дзень паэзіі-89", штотыднёвіку "Літаратура і мастацтва", расійскіх і беларускіх газетах.

Два гады назад выйшаў у Слоніме літаратурны альманах "Золак над Шчарай", куды ўвайшлі творы сяброў Слонімскага літаратурнага аб'яднання. Змешчана ў ім і падборка вершаў Рудольфа Пастухова. Большасць з іх лірычныя, пра каханне. Мне падабаецца яго лірыка сваёй адкрытасцю, мілагучнасцю і вобразнасцю:

**Я знаю, ты устала, ты —**
**устала...**
**Устала ждать. Устала**
**догонять.**
**А я опять то в Бресте, то**
**в Поставах**
**всё силюсь ход истории**
**понять.**
**И напрямую, не ища дороги,**
**по жизни свой прокладывая**
**путь,**
**сбиваю ноги**
**на чужих порогах,**
**чтобы к тебе однажды**
**повернуть.**

Быў час, калі Рудольф Пастухоў актыўна займаўся грамадска-палітычнай дзейнасцю. Быў нават дэпутатам Слонімскага гарадскога Савета народных дэпутатаў. Але цяпер не да гэтага, ды й здароўе не тое, а проста хочацца спакою і цішыні. Жыццёвая мітусня заўсёды адцягвае творчага чалавека ад літаратуры. Ён пісаў свае творы ўсюды: за кратамі, у тайзе, на лесапавале, у каменным кар'еры, у Доме культуры, на фабрыцы.... Але лепш за ўсё пісалася і пішацца дома ў Слоніме ці на лецішчы ў Чамярах. Пражыта больш паловы жыцця. Ёсць аб чым задумацца, падвесці нейкія вынікі свайго лёсу ці проста падумаць аб тым, што было.

Свой першы паэтычны зборнік Рудольф Пастухоў так і назваў "Судьба", які пабачыў свет у Слоніме ў 1994 годзе. Ва ўступным слове да яго Данута Бічэль сказала: "Наколькі я ведаю, Пастухоў доўгі час нават і не думаў, каб выдаць кнігу. Пісаў для сябе, успамінаў, разважаў пра перажытае — каб выгаварылася душа...". І душа паэта гаварыла, бо напісана вельмі шмат. Кожны верш яго амаль аўтабіяграфічны. Тут "и томящая грусть, и зовущая память", тут і тая "горбушка, триста граммов хлеба, что мне отвесила война", тут і "холмик моей мамы", і "шаги часового...". Побач з гэтымі ў паэзіі Р. Пастухова ёсць і радкі амаль класічныя, хрэстаматыйныя. Яны хутка запамінаюцца. Ды ці можна быць раўнадушным, чытаючы такія строфы:

**Замерзаю в шестой зиме**
**и живу без огня.**
**Как же снова холодно мне!**
**А тебе холодней без меня...**
**Это просто ставни скрипят,**
**как шаги на снегу...**
**...я во сне на подушке распят —**
**но к тебе распятым бегу.**

У канцы верасня ў паэта са Слоніма Рудольфа Пастухова быў юбілей. А на пісьмовым стале — новая кніжка. Няхай Вам, Рудольф Аляксеевіч, плённа працуецца і здаровіцца на роднай слонімскай зямлі!

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

# СНЫ НА ЧУЖЫНЕ

Янка Юхнавец — адзін з найбольш вядомых прадстаўнікоў літаратуры беларускага замежжа. Нарадзіўся 3 лістапада 1921 года ў вёсцы Забродак цяперашняга Докшыцкага раёна. У 1944 годзе быў арыштаваны немцамі і вывезены ў Германію. Скончыў у 1949 годзе Вольны універсітэт у Мюнхене па спецыяльнасці заходнееўрапейскае права.

З 1949 года жыве ў Злучаных Штатах Амерыкі.

Першыя творы Я. Юхнавец надрукаваў у эміграцыйных часопісах "Шыпшына" і "Сакавік" (1948). Аўтар кніг паэзіі "Шорах моўкнасці" (Нью-Йорк, 1955), "Новая Элегія" (Баварыя, 1964), "Калумбы" (Нью-Йорк, 1967), "Выбраных твораў" (Нью-Йорк, 1989—1990). Выдавецтва "Мастацкая літаратура" выпусціла ў серыі "Галасы беларускага замежжа" аднатомнік Я. Юхнаўца "Сны на чужыне", складзены А. Бяляцкім.





# АД ІХ — ДУХ ХАТНЯГА ЦЯПЛА І ДАБРАБЫТУ

У Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі адкрылася выстава "Падвойныя дываны са збораў Польшчы і Беларусі". Яна ўпершыню знаёміць нашых гледачоў і даследчыкаў з такою цікаваю з'яваю народнага мастацтва. Гэтыя вялікія прастакутныя тканіны, вытканыя з воўны і прызначаныя для хатняга ўжытку (пакрываць ложкі ці канапы), рабіліся майстрамі найвышэйшага класа: такога спрыту і таленту патрабуе адмысловая тэхніка выканання. Археолагі знаходзяць рэшткі тканінаў двухаснoўнай тэхнікі ткацтва ў культурных слаях X—XI стагоддзяў. Такія тканіны вядомыя на розных кантынентах: у краінах Еўропы, у Мексіцы і Перу. Але дзе іх радзіма? Адназначнага адказу пакуль няма. Гэты від мастацтва быў добра знаны і на Беларусі. Больш за тое, у мастацтвазнаўстве ўтрываліўся тэрмін "гродзенскія дываны". Гэта падобна на феномен слуцкіх паясоў: паясы, што ткаліся на ўзор слуцкіх, але ў замежных майстэрнях, усё адно захоўвалі назву вырабаў слуцкіх персіярняў.

І ўсё ж тэхніка падвойнага ткацтва з паваенных часоў паціху заняпала ў нашай краіне. "На вялікі жаль, музеі Беларусі і Гродзеншчыны, у прыватнасці, не маюць такіх вялікіх калекцый гэтых тканін, як музеі Польшчы, Германіі і іншых краін. Многія музейныя калекцыі былі вывезены альбо знішчаны падчас другой сусветнай вайны. Многія каштоўныя прадметы матэрыяльнай культуры беларусаў не занялі пачэснае месца ў экспазіцыях ці фондасховішчах музеяў, таму што іншыя былі патрабаванні да музейных збораў з улікам ідэалогіі савецкага грамадства", — чытаем у каталогу. Таму гэтая выстава, зладжаная Беларускім інстытутам праблем культуры і Нацыянальным музеем гісторыі і культуры Беларусі, так актуальная сёння. Да таго ж яна вельмі эфектная: уражвае разнастайнасць узораў пры даволі стрыманай каляровай гаме. І яшчэ манументальнасць ды ўрачыстасць. Ад гэтых дываноў ідзе дух трываласці, надзейнасці, хатняга цяпла і дабрабыту. На іх не шкада патраціць добрыя грошы. Што і рабілі заказчыкі даўнейшых часоў: шляхта, заможныя месцічы, парафіяне для сваіх касцёлаў. А мы, заплаціўшы нейкую драбязу за музейны квіток, можам хадзіць па залах і любавацца на падвойныя дываны колькі душы заўгодна.




**Зьміцер КАЛІСТРА.**

**НА ЗДЫМКАХ: падвойныя дываны з выставы.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

## ГАНАРОВЫ ГРАМАДЗЯНІН ЗАСЛАЎЯ

10 кастрычніка ў памяшканні Пасольства Беларусі ў Лондане адбылася цырымонія ўручэння Анджэю Цеханавецкаму пасведчання аб прысваенні яму звання ганаровага грамадзяніна горада Заслаўя.

А. Цеханавецкі, які жывё ў Лондане, з'яўляецца нашчадкам князёў Мсціслаўскіх-Заслаўскіх. Памятаючы аб сваіх беларускіх каранях, ён напісаў шэраг прац па гісторыі мастацтва на Беларусі. Сярод іх найбольш прыкметнымі з'яўляюцца "Міхал Казімір Агінскі і яго сядзіба музаў у Слоніме", "Нясвіж — міжнародны асяродак культуры на Беларусі".

А. Цеханавецкі з'яўляецца старшынёй Беларуска-польскай камісіі па агульнай культурнай спадчыне. У якасці падарунка Беларусі ім былі перададзены шэраг рэдкіх кніг, слуцкі пояс. Дзейнасць А. Цеханавецкага на карысць беларускай культуры была адзначана медалём Ф. Скарыны.

На цырымоніі прысутнічалі пасол Польшчы ў Вялікабрытаніі А. Стэмпкоўскі, былы пасол Вялікабрытаніі ў Беларусі Дж. Эверард з жонкай, прадстаўнікі беларускай і польскай дыяспар, вучоныя-славісты.

*З ЛІДЧЫНЫ*

## ФЕСТЫВАЛЬ БРАТЭРСТВА

Песні двух славянскіх народаў гучалі ў той восеньскі дзень у Гродзенскім абласным драматычным тэатры. Тут адбыўся чацвёрты фестываль польскай і беларускай песні, які пачаргова праводзіцца ў Гродне і Беластоку.

З асалодай і хваляваннем слухалі блізкія сэрцу песні палякі і беларусы. Змястоўную праграму прадставілі абодва бакі. Пачаўся канцэрт выступленнем хору Беластоцкага гарадскога аддзела Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы. Захапленне гледачоў выклікалі таксама іншыя калектывы нашых братоў з-за Буга. Гэта адзін са старэйшых у Падляссі ансамбль "Спяваючы Гарадок", хор з вёскі Старое Ляўкова, шырока вядомыя на Беласточчыне "Хлопцы-рыбалоўцы" з вёскі Рыбалы і "Бельскія васілёчкі" (горад Бельск Падляскі).

Польскую песню дастойна прадстаўлялі на фестывалі хор "Рэха Гродна", калектывы Саюза палякаў Беларусі "Лехіці" і "Званочкі", а таксама са Свіслачы і Поразава. А напрыканцы захапляючай сустрэчы агульны хор удзельнікаў фестывалю ўзнёсла і хвалюючa праспяваў песню "Люблю наш край, старонку гэту".

І яшчэ пра адзін прыемны факт. Старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы Янка Сычэўскі перадаў польскім калегам з Гродна касеты з запісамі выступленняў беларускіх калектываў Беласточчыны.

Наступны фестываль павінен адбыцца ў будучым годзе ў Беластоку.

## БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ Ў ЛІТВЕ

Пра падзею гэту доўга будуць гаварыць у суседніх з нашай краінай раёнах Літвы. Сёлетняй восенню ў Салечніках (Шальчынінкаі), што недалёка ад Воранава, адбылося свята беларускай песні. Яно сабрала шмат калектываў, якія спяваюць па-беларуску. Да месца будзе заўважыць наступнае: на Віленшчыне жыве нямала беларусаў. Іх самабытную творчасць і прадстаўлялі самадзейныя калектывы з Вільнюса і Шальчынінкая, і Друскінінкая і Вісагінаса (былога Снечкуса), шэрага вёсак. На сцэне раённага Дома культуры выступалі не толькі сталыя выканаўцы, а і дзеці.

— Беларуская песня не прапала, а жыве ў Віленскім краі, — заявіў мастацкі кіраўнік свята, заслужаны артыст Літоўскай Рэспублікі Лявон Мурашка. — На нашай зямлі памятаюць вялікага папулярызатара роднай песні Рыгора Шырму і стараюцца прытрымлівацца яго традыцый.

Дарэчы, спадар Лявон нядаўна пабываў у суседняй Польшчы, дзе з вялікім поспехам спяваў беларускія песні.

Але вернемся да салечніцкага свята. Яно першае па ліку, але, будзем спадзявацца, не апошняе ў незалежнай Літве. Бо беларуская песня мае на Віленшчыне моцныя карані.

**Алесь ЖАЛКОЎСКІ,**
**старшыня Лідскага аддзялення таварыства "Беларусь—Польшча".**

Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Газета набрана, зверстана і надрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку".
(220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 1211.
Падпісана да друку 11.11.1996 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.